ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

7 сакавіка 1997 г. № 10/3886 Кошт 3 000 руб.



## ПАДПІСКА — ЗАКАНЧВАЕЦЦА!

*Шаноўныя чытачы, у вас ёсць яшчэ некалькі дзён, каб падпісацца на наш тыднёвік на другі квартал 1997 года. Падпісацца на "ЛіМ" можна ў любым паштовым аддзяленні. Напамінаем, што кошт тыднёвіка на квартал — 30 тысяч рублёў, на месяц — 10 тысяч.*

**Наш індэкс — 63856**

# *З вясновым святам — чароўныя, адзіныя, каханыя!..*



*Не ўсе жанчыны каменныя...*
Калаж Г. Жынкова.

# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***На календары — вясна. А гэта, паводле апошнегадовых назіранняў фенолагаў-палітолагаў, азначае, што надышоў час не толькі аднаўлення ў прыродзе, але яшчэ і пачатку новага сезона (вітка) збліжэння (інтэграцыі) Беларусі і Расіі. Сёлета пачынаецца ён бурна, актыўна. З сустрэч, прапаноў, заяў... Прычым, як лейтматыў, гучыць цяпер адно: колькі можна гаварыць пра аб'яднанне, пара ўжо канкрэтна дзейнічаць. Многае можа прасвятліць намечаная на сёння сустрэча прэзідэнтаў Беларусі і Расіі. Многае, але, пэўна ж, далёка не ўсё. Бо, калі ўрэшце пачалася гэтая самая "канкрэтыка", выявілася, што падыходы да магчымае інтэграцыі ў Беларусі і Расіі істотна розняцца.***

## ВІЗІТ ТЫДНЯ

Як і чакалася, 3 сакавіка Мінск наведаў кіраўнік місіі Еўрапейскага саюза Ары дэ Коста з мэтай перадаць прэзідэнту Беларусі выніковы даклад, падрыхтаваны місіяй пасля знаёмства з сітуацыяй у Беларусі.

Гэта сведчыць найперш пра тое, што Еўрапейскі саюз не хоча жорсткай канфрантацыі між Беларуссю і краінамі, што ўваходзяць у ЕС. Цяпер слова за прэзідэнтам Беларусі.

## "СЕНСАЦЫЯ" ТЫДНЯ

Інфармацыйнае агенцтва "Інтэрфакс" паведаміла, што прэзідэнты Расіі і Беларусі "прынялі прынцыповае рашэнне аб адначасовым правядзенні ў дзвюх дзяржавах агульнанацыянальных аб'яднаўчых рэферэндумаў". Інфармацыя пра гэта нібыта была ўзятая з праекта штогадовага паслання прэзідэнта Расіі Федэральнаму сходу. Калі чытачы "ЛіМа" атрымаюць гэты нумар тыднёвіка, яны будуць дакладна ведаць, "быў хлопчык ці не?", бо ўжо азнаёмяцца з тэкстам паслання. Нас зацікавіла іншае: рэакцыя беларускага боку на паведамленне "Інтэрфакса". Яна катэгарычная: ніякага рашэння прэзідэнтаў аб правядзенні "агульнанацыянальных аб'яднаўчых рэферэндумаў" няма.

## ШАНТАЖ ТЫДНЯ

Новы віцэ-прэм'ер расійскага ўрада А. Кулікоў на сваёй прэс-канферэнцыі абвясціў сенсацыйнае паведамленне: з 10 сакавіка на расійска-беларускай мяжы будуць устаноўлены мытныя пасты. Прычына: з-за "празрыстай мяжы" праз Беларусь у Расію трапляе значная частка кантрабандных тавараў. Нагадаем, што якраз мытны саюз і знішчэнне памежных слупоў між Беларуссю і Расіяй лічыцца сёння найбольшым дасягненнем інтэграцыі. Дзіўна яшчэ і тое, што агучана была навіна якраз напярэдадні сустрэчы лідэраў дзвюх дзяржаў. Таму і выглядае гэтая аднабаковая акцыя не толькі адказам Расіі на "пацяпленне" адносінаў між Беларуссю і Украінай, але і папярэджаннем-пагрозай, каб "малодшая сястра" была больш згаворлівай.

## ЦЫТАТКА ТЫДНЯ

"А мне падабаецца Лукашэнка. Мяне як рускага нацыяналіста ён цалкам задавальняе (устраивает)".

*(З інтэрв'ю маскоўскага спевака А. Градскага карэспандэнту газеты "Имя", 28 лютага г.г.)*

## ПАДАРУНАК ТЫДНЯ

Прэзідэнт Беларусі падарыў украінскім сялянам два трактары "Беларусь". Мэта гэтай акцыі, як паведамляе "Советская Белоруссия", умацаванне добрасуседскіх адносінаў... Зусім нядаўна А. Лукашэнка "лічно" падарыў Маскве тралейбус — у знак умацавання дружбы, цяпер вось — трактары ўкраінцам. Нешта не чуваць, каб штосьці збіраліся дарыць нам нашыя суседзі...

## ДЭКРЭТ ТЫДНЯ

Наколькі зручная ўсё ж знойдзена форма кіравання прэзідэнта дзяржавай — з дапамогай дэкрэтаў. Дэкрэт — гэта не ўказ, гэта гучыць ужо як закон. Але ж працэдура прыняцця закона, нават у цяперашнім парламенце не такая простая. Пад дэкрэтам жа дастаткова аднаго подпісу... 5 сакавіка прэзідэнт Беларусі падпісаў надзвычай важны Дэкрэт "Аб сходах, мітынгах, вулічных шэсцях, дэманстрацыях і пікетаванні ў Рэспубліцы Беларусь". У праваабаронцаў зноў з'явіцца магчымасць гаварыць пра яго антыканстытуцыйнасць і парушэнне правоў чалавека. Бо дэкрэт досыць жорстка рэгламентуе арганізацыю і правядзенне масавых выступленняў грамадзян краіны, і практычна "развязвае рукі" міліцыянерам і амонаўцам (якія і дагэтуль не надта цырымоніліся) у барацьбе супраць "дэкрэтапарушальнікаў".

## ПРЫСЯГА ТЫДНЯ

4 сакавіка адзінаццаць суддзяў новага складу Канстытуцыйнага суда Беларусі прынялі прысягу на вернасць Канстытуцыі краіны. З папярэдняга складу КС, які абмяркоўваў некалі пытанне аб імпічменце прэзідэнту, засталося чатыры суддзі, у тым ліку і новы старшыня КС Р. Васілевіч, сямёра ж суддзяў, на чале з В. Ціхінем, засталіся вернымі Канстытуцыі 1994 года.

## ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

Беларуская міліцыя 4 сакавіка адзначыла сваё 80-годдзе. Дзень міліцыі застаўся ці не адзіным святам, якое мае хоць і рэвалюцыйныя, але беларускія карані і не супадае з адпаведным савецкім. Недагляд?

## НАЗІРАННЕ ТЫДНЯ

У Мінску створаны аргкамітэт па ўтварэнні патрыятычнай маладзёжнай арганізацыі, які ўзначаліў лідэр "Прямого действия" В. Янчэўскі. Такім чынам, ідэя прэзідэнцкай каманды аб стварэнні на Беларусі за сакавік-красавік "влиятельной" маладзёжнай арганізацыі, пачала набываць рэальныя абрысы. У інтэрв'ю тэлебачанню і газетам члены аргкамітэта пакуль агульнымі словамі характарызуюць ідэі, па якіх будзе яднацца моладзь: "патрыятызм", "хрысціянская мараль" і г.д. Але што такое патрыятызм — вернасць Бацькаўшчыне, ці... Што такое "хрысціянская мараль" — "не убий" ці "если враг не сдается — его уничтожают"?.. Пакуль ідэалогія новай арганізацыі не набудзе рэальныя, канкрэтныя абрысы — датуль не будзе будучыні ў новай суполкі... Але адкуль узяцца той "ідэалогіі", калі няма яе ў дзяржавы?

## АНОНС ТЫДНЯ

Беларуская служба радыё "Свабода" з 9 сакавіка распачынае цыкл перадач паводле рукапісу першага зборніка апавяданняў народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава "Сцяна", які павінен быў выйсці ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў 1995 годзе... У першай перадачы прыме ўдзел рэдактар нявыдадзенай кнігі Рыгор Барадулін, апавяданні будзе чытаць сам Васіль Быкаў... "Чытальная зала "Свабоды" выходзіць у эфір па аўторках, чацвяргах і нядзелях а 17-й і 22-й гадзінах беларускага часу на кароткіх хвалях.

---

ІМПРЭЗЫ

# Ён слухаў цішыню

Новы музей выдатнага жывапісца В. Бялыніцкага-Бірулі на радзіме мастака ў Бялынічах — па-сапраўднаму прыгожы. Адрэстаўраваны стары будынак выглядае ледзь не як казачны домік у шэрым атачэнні ранняга веснавога надвор'я і стандартнай раённай архітэктуры. У дзень адкрыцця ля будынка сабралася шмат народу — школьнікі, бабулькі, афіцыйныя асобы, стварыўшы нават па сталічных маштабах уражанне свята шматлюднага.



У музеі — пяць залаў. У адным з іх — экспазіцыя з шасцідзесяці твораў мастака з фондаў Нацыянальнага мастацкага музея, дзе зараз захоўваецца больш за чатырыста работ Бялыніцкага-Бірулі, якія набываліся з 1944 года ў прыватных уласнікаў і былі перададзены сям'ёю мастака. Акрамя залы Бялыніцкага-Бірулі, у музеі размясцілася калекцыя твораў яго вучня і сябра Антона Бархаткова, творы ўдзельнікаў I міжнароднага пленэра Бялыніцкага-Бірулі, які прайшоў летась. Большая частка карцін з пленэра захоўваецца ў Магілёўскім мастацкім музеі, але невялікая, сапраўды прыгожая калекцыя знайшла сваё месца і ў Бялынічах. Варта аддаць тут належнае і мясцоваму кіраўніцтву — старшыні райвыканкама Аляксандру Агееву і старшыні аблвыканкама Аляксандру Кулічкову, якія выканалі абяцанне, дадзенае імі на пленэры: да 125-гадовага юбілею мастака быў адкрыты ў Бялынічах новы музей.

У дзвюх астатніх залах музея Бялыніцкага-Бірулі мяркуюцца перасоўныя экспазіцыі. Першай стала выстава маладой мастачкі Ларысы Журавовіч, выпускніцы Беларускай акадэміі мастацтваў і Творчых майстэрняў графікі, якая вярнулася ў родныя мясціны. I варта сказаць, што працавала яна плённа. Пра гэта сведчыць і экспазіцыя навучэнцаў мясцовай мастацкай студыі, якую ўзначальвае Ларыса Журавовіч. Экспазіцыя размясцілася ў суседняй зале.

Пазней у памяшканні кінатэатра адбыўся ўрачысты сход, дзе бралі слова міністр культуры Аляксандр Сасноўскі, старшыня Бялыніцкага райвыканкама Аляксандр Агееў, пісьменнік Віктар Карамазаў, які вядомы сваёй даследчыцкай дзейнасцю творчасці Бялыніцкага-Бірулі, народны мастак Расіі, старшыня Саюза мастакоў Расіі Валянцін Сідараў ды іншыя госці. Значным і ўрачыстым момантам сталася гашэнне юбілейнай маркі з выявай мастака.

Асоба Вітольда Бялыніцкага-Бірулі, безумоўна, вартая той увагі, якую апошнім часам надаюць ёй мастацтвазнаўцы, мастакі, дзеячы беларускай культуры і афіцыйная ўлада. Мастак доўгі час не жыў на Беларусі, але рэгулярна наведваў сваю радзіму. "Я — беларус" — гучала ў яго лістах. Яго карціны ўражвалі сучаснікаў сваёй тонкай далікатнай каларыстыкай, нягучнай мелодыяй фарбаў. Левітан пісаў пра Бялыніцкага-Бірулю, што той мог слухаць цішыню і перадаваць гэтае адчуванне гледачу. Ён натхняўся роднай прыродай і як ніхто здолеў перадаць яе нягучную прыгажосць — бярозкі, веснавое разводдзе, вёсачкі, мінскія ваколіцы. Тут, на радзіме, хацелася яму з новым запалам перанесці на палотны аблічча краіны, якая адраджалася пасля вайны... "Я жывы. Мая душа прагне жыцця, мая цяга да жывапісу мацнейшая за смерць", — пісаў Вітольд Каэтанавіч у апошнія дні жыцця ў лісце да Панамарэнкі. I сапраўды, ягоныя карціны засталіся жыць і натхняць сённяшніх творцаў, засталіся прыкладам сапраўды высокага жывапісу.

У гонар юбілею мастака ў Нацыянальным мастацкім музеі адкрылася выстава яго твораў, якая ў сённяшнім кантэксце гучыць як лірычны ўспамін і натхненне на будучыню.

**Н. ШАРАНГОВІЧ**

*Фота Г. Жынкова.*

---

КІНО

# У чоўне па рацэ часу

У мінскім кінатэатры "Змена", як вядома, рэгулярна адбываецца прагляд стужак, якія, незалежна ад таго, пра каго і пра што яны расказваюць, працуюць на нацыянальнае Адраджэнне. Тым больш падобнай мэце адпавядаюць гэтыя дзве, што былі паказаны 19 лютага.

У зале сабраліся прыхільнікі таленту народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна. Гэта былі людзі, па-сапраўднаму ўлюбёныя і ў творчасць майстра, і ў родную яго сэрцу Віцебшчыну. Далучыцца да паэтавых вытокаў дапамог ім фільм "Евангелле ад мамы", галоўным героем якога з'яўляецца сам Рыгор Іванавіч. Але ў пэўнай ступені гэтаму ж дапамагала і другая стужка "Апошні човен", герой якога, як мы любім казаць, звычайны чалавек — Віктар Красней з Пліны, майстар чоўнаў.

Абедзве стужкі — плён работы творчай групы на чале з вядомым кінарэжысёрам С. Пятроўскім. На жаль, сам ён на прэм'еру прыйсці не змог, быў заняты чарговымі тэрміновымі здымкамі. Затое да гледачоў завіталі мастацкі кіраўнік студыі "Летапіс" У. Халіп, галоўны рэдактар С. Палякоў, В. Тарас і Р. Барадулін.

Пасля прагляду фільмаў адбылося іх абмеркаванне, і абыякавых не было. У асноўным новым работам беларускіх кінематаграфістаў давалася высокая ацэнка. Большую цікавасць выклікаў першы фільм. Кінадакументалісты, дарэчы, неўпершыню звяртаюцца да асобы і творчасці Р. Барадуліна. Першы фільм "Вяртанне ў першы снег" некалькі гадоў назад быў пастаўлены па сцэнарыі В. Тараса. Новая стужка адрозніваецца ад папярэдняй тым, што ў ёй прамаўляе сам герой. Але не пра жыццё-быццё расказвае Р. Барадулін, а чытае свае вершы. I пра маці — не ў апошнюю чаргу, а ў беларускай паэзіі наўрад ці знойдзеш яшчэ такога творцу, які б гэтак пранікнёна расказаў пра самага блізкага чалавека. Арганічна ўваходзяць у сюжэтную канву фільма і здымкі розных гадоў, асабліва тыя, яшчэ чорна-белыя, якія занатавалі для нашчадкаў Р. Барадуліна маладога.

Фільм "Евангелле ад мамы" сугучны "Апошняму чоўну" і таму, што як бы скразным іх вобразам з'яўляецца човен. Човен на хвалях ракі, возера. Човен на рацэ часу. На ім Р. Барадулін паказаны ў фільме. На ім ён кіруецца ў дзень заўтрашні. А яшчэ повязь паміж нашым, дваццатым стагоддзем і новым, дваццаць першым (пра гэта зазначыў у сваім выступленні і В. Тарас) — унучка паэта Дамінічка, што бяжыць па полі, клічучы дзеда.

**Н. К.**

## "Чалавек і час"

**ТАКІ ДЭВІЗ КОНКУРСУ НА СТВАРЭННЕ П'ЕС ДЛЯ ТЭАТРАЎ**

**Дзеля павышэння ролі тэатральнага мастацтва ў развіцці нацыянальнай культуры, актывізацыі работы па стварэнні новых твораў драматургіі, якія адлюстроўваюць духоўны свет чалавека, яго месца і ролю ў гісторыі і сучасных пераўтварэннях жыцця Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь праводзіць з 10 лютага па 10 снежня 1997 года рэспубліканскі конкурс на стварэнне п'ес для тэатра пад дэвізам "Чалавек і час".**

**На конкурс прымаюцца шматактовыя п'есы і інсцэніроўкі па творах беларускай літаратуры для драматычнага тэатра; п'есы і інсцэніроўкі для дзіцячага і лялечнага тэатра.**

**Для разгляду дапускаюцца толькі тыя творы, што не будуць апублікаваны ці публічна выканаthe раней падвядзення вынікаў конкурсу. Вынікі абвяшчаюцца не пазней 10 снежня 1997 года.**

**Работы на конкурс прымаюцца да 10 кастрычніка 1997 года.**

**П'есы на конкурс высылаюцца ў двух машынапісных экземплярах (першы і другі) без указання прозвішча аўтара, замест чаго даецца яго асабісты дэвіз. Да конкурснага матэрыялу дадаецца паштовы канверт з паметкай аўтарскага дэвізу, у якім захоўваецца прозвішча аўтара і ўказаны яго адрас.**

**Матэрыялы высылаюцца па адрасе: 220004, г. Мінск, ГСП, пр. Машэрава, 11, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, аддзел тэатраў, "На конкурс п'ес для тэатраў".**

**Дата прыёмкі работ, што дасылаюцца поштай, вызначаецца па паштовай адзнацы адпраўкі.**

**Для пераможцаў конкурсу ўстаноўлены наступныя прэміі.**

**Сярод п'ес для драматычнага тэатра прысуджаюцца: адна першая прэмія — 170 мінімальных зарплат, адна другая — 135 мінімальных зарплат, дзве трэція — па 100 мінімальных зарплат кожная.**

**Сярод п'ес для дзіцячага тэатра: адна першая — 185 мінімальных зарплат, адна другая — 150 мінімальных зарплат, адна трэцяя — 115 мінімальных зарплат.**

**Сярод п'ес для тэатра лялек: адна першая — 85 мінімальных зарплат, адна другая — 65 мінімальных зарплат, адна трэцяя — 50 мінімальных зарплат.**

**Сярод інсцэніровак па творах беларускай літаратуры: для драматычнага тэатра — тры прэміі ў памеры 65, 45, 35 мінімальных зарплат кожная; для дзіцячага тэатра — тры прэміі ў памеры 70, 50, 40 мінімальных зарплат кожная; для тэатра лялек — тры прэміі ў памеры 35, 25, 15 мінімальных зарплат кожная.**

**З мэтай прыцягнення да конкурсу больш шырокага кола ўдзельнікаў устанаўліваюцца 6 заахвочвальных прэмій, у тым ліку: 3 прэміі па 30 мінімальных зарплат кожная і 3 прэміі па 20 мінімальных зарплат кожная.**

**Заахвочвальныя прэміі прысуджаюцца толькі за стварэнне п'ес.**

**Пры неабходнасці журы можа перагледзець колькасць прэмій у межах кожнага раздзела, па якім праводзіцца заахвочванне. Пры гэтым перагляду не падлягаюць памеры і агульная сума сродкаў, што выдаткавана на прэміі ў межах кожнага раздзела заахвочвання.**

**Журы не рэцэнзуе для аўтараў прадстаўленыя імі матэрыялы на конкурс.**

## "Боль Чарнобыля"



**Мноства цікавых дакументаў сабрала за некалькі гадоў свайго існавання экспазіцыя "Боль Чарнобыля", якая адкрыта ў Краснапольскім гісторыка-этнаграфічным музеі. Яна пастаянна папаўняецца новымі матэрыяламі, адбор якіх займаюцца дырэктар музея Віктар Лазовік, захавальнік фондаў Тацццяна Коршыкава і мастак-афарміцель Таццяна Аўраменка (на здымку).**

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

# Свята, ды не ў нас...





Свята Казюкаса, свята вясны і народнай творчасці... Яно для многіх з нас найперш асацыіруецца з бясконцым натоўпам на цэнтральных вуліцах старой Вільні ля сталоў скрозь застаўленых глінянымі ды саламянымі вырабамі, з "казюкамі" — складанымі кампазіцыямі на доўгай драўлянай ножцы з засушаных фарбаваных кветак і ўвогуле ўсяго расліннага, на што здатная фантазія выканаўцы. Зрэшты, самі жанчыны, што гасцінна прапаноўваюць на Казюкасе гэтыя свае веснавыя "кветкі", распавядаюць, як доўга, складана, на працягу ўсяго года рыхтуюць яны тое дзіва.

Дарэчы, такія "казюкі" — не манаполія літоўскіх народных майстроў, ведаюць гэтыя "кветкі" і на Гродзеншчыне, але не скарыстоўваюць іх як сімвал вясны і свята. А разнастайнасць гаршчочкаў, падсвечнікаў, цацак альбо званочкаў з гліны, саламяных капелюшоў нашых майстроў зусім не саступае суседзям. На жаль, Беларусь не мае свята, якое б хоць нечым набліжалася па цікавасці, узроўні і непрыцягнутасці ніякага афіцыёзу да літоўскага Казюкаса. Старажытныя традыцыі ў горадзе, дзе пануе сучаснае мысленне і сучасная архітэктура, старанна скасоўваліся на працягу многіх гадоў, а новыя, напрыклад, веснавое "свята аднаго дня", куды збіраліся народныя майстры з усёй рэспублікі, не прыжыліся, ды і, варта сказаць, вельмі шматлюдныні альбо шырокімі не былі. Камернасць шкодзіла святам без дзяржаўнай падрыхтоўкі і прымусу, людзі не спяшаліся ісці, майстры не мелі сродкаў, каб прывезці свае вырабы ў сталіцу. Агульнадзяржаўная палітыка дазваляла існаванне аб'яднанняў народных майстроў, але смешныя кошты і штучна прыніжаная каштоўнасць народнага, як другаснага, шкодзіла развіццю народнага мастацтва. А з другога боку, прадстаўленне краіны народнымі калектывамі і саламянымі канямі ў якасці падарункаў стварала цалкам неўразумелую сітуацыю. Таму мы і маем тое, што маем.

А маем мы — прыклад сапраўднага народнага традыцыйнага свята, на жаль, не нашага, літоўскага. І Вільня зараз чысценькая, адрэстаўраваная, насычаная кавярнямі, утульнымі крамамі і мастацтвам — у музеях, храмах, выставачных залах і проста на вуліцах падчас свята і ў звычайны дзень.

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

*На вуліцах старажытнай Вільні — свята Казюкаса.*

*Фота Г. ЖЫНКОВА*





АДГАЛОСКІ

# А дзеля чаго "потрясения"?

***Самая "светская", як на сённяшні дзень, беларуская газета, звярнуўшы ўвагу на 100-гадовы юбілей Эдварда Вайвадзіша, паблажліва засведчыла: "Имело бы смысл Союзу писателей поздравить юбиляра телеграммой, а не осчастливить приемом в свою недружную организацию. Теперь, не ровен час, на одной полосе "ЛіМа" могут сойтись информация о приеме вместе в некрологом. Годы, сами понимаете, да потрясение от новости..." У такім тоне вытрыманы і астатні тэкст артыкула "Приняли в союз патриарха"...***

Напрыканцы пісьменніцкага і жыццёвага веку ў пісьменніцкую арганізацыю Беларусі прымалі, так ужо здарылася, многіх. У 74 гады (1980) — Захару Біралу. Першая яго кніжка — "Смех і радасць вёскі" — пабачыла свет у 1929 годзе. Наступная — "Цвітуць кветкі" — толькі ў 1963 годзе. У 1936 годзе З. Бірала быў рэпрэсіраваны. У 1940 годзе вызвалены. Прайшоў вайну. Рэабілітавалі толькі ў 1958 годзе.

У 1985 годзе членам СП БССР стаў і Пятро Бітэль (год нараджэння — 1912). Яшчэ ў сталінскім ГУЛАГу ён пераклаў на беларускую мову "Пана Тадэвуша" Адама Міцкевіча (пераклад П. Бітэля дасюль не выдадзены). У 1968 і 1984 гадах пабачылі свет выдатныя арыгінальныя паэтычныя кніжкі Пятра Іванавіча. Працаваў жа ён да апошняй сваёй хвіліны.

Зоську Верас прынялі ў шэрагі пісьменніцкай арганізацыі толькі ў 1982 (нарадзілася ў верасні 1892). А па нашым часе выдадзена ўсяго толькі танюткая яе кніжачка — "Каласкі". Варта нагадаць: свае абразкі пад псеўданімам Мірко яна друкавала яшчэ ў "Нашай Ніве" (для савецкай газеты трэба, мусіць, патлумачыць, што ў той "Нашай Ніве", якая пачатак мае ў 1906 годзе). А колькі было зроблена Зоськай Верас на асветніцкай ніве ў Заходняй Беларусі...

Васіль Савіч Гарбацэвіч. Для адных — сціплы дукорскі настаўнік, для гісторыі беларускай літаратуры — аўтар "Чырвоных кветак Беларусі". Адкрыйце любую кнігу па гісторыі беларускай драматургіі — паўсюдна згадваецца імя Гарбацэвіча. А ў пісьменніцкі саюз афіцыйна быў прыняты толькі ў 1981 (за два гады да дзевяностагоддзя, за чатыры — да смерці).

А яшчэ ж Сяргей Новік-Пяюн, Васіль Супрун, яшчэ шмат хто з тых, якія па праву і раней, у маладзейшыя гады, павінны былі быць у пісьменніцкай арганізацыі. Не былі. Хто — з-за сталай сваёй адсідкі ў лагерах, хто — з-за аддаленасці ад Беларусі...

Што ў тым дрэннага, калі ў Саюз пісьменнікаў прымаюць літаратара, які праз усё жыццё не пакідаў роднага слова?..

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

СКАРБЫ

***Гэтак нашую Нацыянальную бібліятэку, напэўна, яшчэ мала хто і называе. Можа, нават і ніхто. Сёй-той, пераканана, карыстаецца — усё яшчэ! — яе традыцыйным савецкім іменем. А як жа: вунь мы якія зацятыя прыхільнікі савецкіх традыцый — самыя большыя ва ўсёй СНД! Мо і насуперак гэтаму я называю яе вось так — "Нацыяналка". Свядома і трошкі задзірыста. Бо, зноў жа, пераканана: даўно пара насіць ёй менавіта гэтае імя — "Нацыяналка". Менавіта ў гэтакай назве — яе сапраўдная сутнасць, яе змест і прызначэнне.***

памяшканні "Нацыяналкі": чытальныя залы, службовыя, падсобныя, кнігасховішчы, рэстаўрацыйныя майстэрні і г. д. Пабачыла тут "бляск і галечу", дваццатае і каменнае стагоддзі — скажам, тыя ж камп'ютэрныя сістэмы і прымітыўныя, можна сказаць, дапатопныя самаробныя стэлажы і каляскі для падвозкі кніг. Урэшце пагутарыла з чытачамі. Скончылася ж маё знаёмства з "Нацыяналкай" досыць працяглай гаворкай з Галінай Мікалаеўнай у яе кабінеце. Само сабою, больш гаварыла яна, а я толькі зрэдчас сёе-тое перапытвала ці ўдакладняла, на хвіліну-другую перапыняючы яе, большай часткаю, не надта аптымістычны аповед. Яго, у сціслым пераказе, і прапаную ўвазе чытачоў.

— Будынак наш, — пачала Галіна Мікалаеўна, — стары. Ён аднагодак, дарэчы, з вашым "ЛіМам". Але калі для газеты ўзрост — гэта проста юбілей, і ліць свае духоўныя запатрабаванні. Зачыняць бібліятэку ці адпраўляць яе ў неаглядныя абшары, думаецца, нельга. Павінен быць разумны падыход да пошукаў плошчы. У распараджэнні прэзідэнта напісана, што гарвыканкам павінен падшукаць плошчу пад бібліятэку на час рамонту. Але ж, калі шчыра казаць, мы разумеем, што зрабіць яму гэта нялёгка, бо ўсё лепшае і бліжэйшае перайшло ў падпарадкаванне спадара Ціцянкова. А да ўсяго, мы не ведаем, калі і як пачнуцца пярэбары. Паводле плана, рамонт разлічаны на 1997—98 гады, але з планаемых 40 млрд. рублёў на 1997 год выдзелена па інфармацыі Міністэрства фінансаў усяго 8 млрд. рублёў...

Слухаючы гэта, я міжволі ўспомніла сваю "экскурсію" ў аддзел рэдкай кнігі і старадрукаў. Пабачыла там на свае вочы выданні Францішка Скарыны, Івана Фёдарава, Пятра Мсціслаўца, "Граматыку" Смятрыцкага, кнігі з друкарні братоў Мамонічаў, "Мужыцкую праўду" Кастуся Каліноўскага, першыя выданні Якуба Коласа, Янкі Купалы, Змітрака Бядулі, Цішкі Гартнага, іншыя старыя выданні. Да іх дакрануцца боязна, не тое што ў рукі ўзяць. Хто і як вызначае іх каштоўнасць? Ці паддаюцца яны такому вызначэнню? Як іх скрануць з месца? У каго падымецца рука некуды іх перавозіць?



# "Нацыяналка"

З "Ленінкай" (вось бачыце, і я не стрымалася, азвалася гэтым яе іменем) у многіх з нас звязана нямала згадак і незабыўных успамінаў. Мне думаецца, што не было сярод ужо шматлікіх пакаленняў — даваенных і пасляваенных — мінскіх студэнтаў хлопцаў і дзяўчат, якія б не сядзелі, схіліўшыся над кнігай, у яе ўтульных чытальных залах. Прынамсі, я не магу ўявіць сабе такога студэнта ці студэнтку. Які ж гэта студэнт — без "Ленінкі"?! Без яе дапамогі наўрад ці напісалася хоць адна курсавая, а тым больш дыпломная праца. І калі ўжо гаварыць пра повязь "студэнт" — "Ленінка", дык нельга не сказаць і пра тое, што любімая бібліятэка была месцам не толькі вучобы і працы з кнігаю, — яна была і месцам спатканняў закаханых, месцам хвалюючых сустрэч і знаёмстваў. Менавіта тут, у колішняй "Ленінцы", многія дзяўчаты і хлопцы знайшлі, акрамя ведаў, і свой сямейны лёс, сваё чалавечае шчасце, як знаходзяць яго сённяшнія юнакі і дзяўчаты ў сённяшняй "Нацыяналцы". Хай так будзе і надалей, хай гэтая добрая традыцыя бібліятэкі доўжыцца ў гадах і дзесяцігоддзях.

Зрэшты, мо я і перабаршчыла са студэнтамі: пэўна ж, былі лайдакі і недарэкі, якіх абмінула шчасце і незабыўнае адчуванне нейкай асаблівай, ні на якую іншую не падобнай цішыні вечаровай чытальнай залы. А вось што да аспірантаў, будучых кандыдатаў і дактароў навук, як і да ўжо аступеных навукоўцаў, дык сярод іх, гэта ўжо зусім дакладна, не было аніводнага, якіх бы лёс не вывеў у навуку міма "Ленінкі". У гэтым сэнсе бібліятэка на стыку вуліц Чырвонаармейскай і Кірава (не, мы, пэўна, і сканаем у абдымках савецкіх традыцый!) — самы сапраўдны універсітэт, ці, як прынята гаварыць, кузня навуковых кадраў Беларусі.

Ну і, вядома ж, "Нацыяналку" (будзем усё ж карыстацца гэтым словам) любяць, шануюць, цягам доўгіх гадоў падтрымліваюць з ёю самыя сяброўскія стасункі тысячы, дзесяткі тысяч так званых простых чытачоў, людзей, для каго кніга стала неад'емнай патрэбай душы, дарадцам, памочнікам і апірышчам у самых розных варунках жыцця, працы, адпачынку.

Карацей кажучы, "Нацыяналка" атаясамлялася ў свядомасці, як нешта непарушнае, адвечнае, фундаментальнае, што не падуладна ні часу, ні якім-небудзь пераменам у сацыяльным, эканамічным, палітычным жыцці грамадства: як тое нямногае, самакаштоўнае, што стала сімвалам, увасабленнем краіны і народа.

Пэўна, з гэтае прычыны мяне вельмі ўсхвалявала, закранула аж но да нейкай непамыснасці невялікае газетнае паведамленне аб тым, што Нацыянальная бібліятэка Беларусі зачыняецца на рамонт, а яе фонды перавозяцца кудысьці на ўскраіну — здаецца, у Дражню. Уразіла найперш другое — пераезд у аддалены ад цэнтра раён Мінска. З Чырвонаармейскай — у Дражню? На які час? Ведаем мы нашы рамонты, асабліва ў бюджэтнай сферы! На колькі ён задоўжыцца — на год, два, пяць? І на гэты час сталіца, краіна застанецца без "Нацыяналкі"? Так, без яе, бо бібліятэка дзесьці ў Дражні (хай не крыўдуюць дражненцы) — гэта не "Нацыяналка". Не кажучы ўжо пра тое, як можна, куды, у якія ўмовы перавозіць (перавезці) унікальныя, непад'ёмныя (пакарыстаемся гэтым словам) бібліятэчныя скарбы.

Гэтая непамыснасць і прывяла мяне ў бібліятэку. Пазнаёмілася з дырэктарам Галінай Мікалаеўнай Алейнік і з многімі супрацоўнікамі. Абышла — у суправаджэнні ветлых, гасцінных гаспадынь — ці не ўсе

чым больш, тым больш радасны, дык для будынка ўзрост — зусім не радасць. Колькі гадоў прайшло пасля вайны? Ужо больш, чым паўвека. І за гэты час будынак не ведаў аніякіх рамонтаў. Можаце сабе ўявіць, у якім стане ён апынуўся. Вымагае не проста рамонту, а рамонту самага што ні ёсць капітальнага, фундаментальнага. Знаходзіцца ў некаторых памяшканнях проста небяспечна. У гэтакім жа стане і корпус па вуліцы Кірава, хоць і пабудаваны на трыццаць гадоў пазней, у 1961 годзе. Спраектаваны і збудаваны ён быў, на жаль, вельмі кепска. Чамусьці там былі зроблены надзвычай высокія пралёты, іх тады ж, у 1961 годзе, давялося дзяліць папалам — рабіць драўляныя перакрыцці. Сёння гэтыя перакрыцці могуць абрынуцца ў любую хвіліну. Вы самі бачылі, яны прагнуліся, вісяць... Таму рамонт нам патрэбен пазарэз. Мы звярталіся з гэтаю просьбаю і ў Савет Міністраў, і да прэзідэнта, аднак... Наша грамадства, у тым ліку і вышэйшыя ўлады, не могуць усвядоміць, што гэта не звычайная, а нацыянальная бібліятэка. Зрэшты, бібліятэкі ўвогуле — гэта канстытуцыйная гарантыя доступу народа да інфармацыі, і таму гэтыя ўстановы трэба ўтрымліваць у адпаведным стане. Зараз прэзідэнт, здаецца, звярнуў увагу на нашу бібліятэку. Ёсць адпаведнае распараджэнне на рэканструкцыю і капітальны рамонт будынка. У гэтым дакуменце мне асабіста найбольш імпануе пункт аб праектаванні новага комплексу будынкаў бібліятэкі. Яшчэ ў 1994 годзе быў зацверджаны эскізны праект комплексу, які павінен быць узведзены ў канцы праспекта Ф. Скарыны. Сённяшнія ўмовы жыцця вымагаюць — даўно ўжо! — укаранення аўтаматызаваных тэхналогій, а гэты будынак нават і пасля капітальнага рамонту не будзе прыстасаваны для гэтага. Выйсце — будаўніцтва новага будынка. Мы разумеем, што сённяшняя фінансавыя магчымасці, эканамічны стан краіны далёка не лепшы, але ўсё ж выкідваць аграмадныя сродкі на капітальны рамонт — не лепшае выйсце, бо ўсё роўна ў перспектыве бібліятэцы патрэбен будзе новы, сучасны комплекс будынкаў.

Ды, на жаль, нашы меркаванні застаюцца пры нас. І бліжэйшая перспектыва — рамонт з высяленнем у Дражню. Там, на вуліцы Радыяльнай, нам прапанавалі для часовага прытулку будынак аднаго з праектных інстытутаў. Але ён, зноў адзначу, вельмі ўсё ж далёка, што таксама немалаважна, і зусім не прыстасаваны для размяшчэння нашых фондаў. А прыпыніць на год-два-тры абслугоўванне чытачоў мы не можам — гэта проста неразумна. Таму мы мяркуем, што рамонт трэба рабіць — а яго трэба рабіць! — пачаргова, паступова вызваляючы паверх за паверхам. Само сабою, спатрэбяцца на гэты час падсобныя памяшканні, але, зноў жа, не гэтак далёка, — каб адлегласць дазваляла без асаблівых клопатаў прывозіць кнігі па запатрабаванні чытачоў.

Не стамлюся яшчэ і яшчэ раз падкрэсліць, што гэтыя нашы меркаванні — не прыхамаць. Разуменне і клопат тут павінны быць дзяржаўныя. Трэба ўлічваць, што сродкў не хапае, бібліятэка фінансуецца, а значыць і камплектуецца вельмі дрэнна. А між тым яна з'яўляецца апошняй інстанцыяй, дзе чытач можа нешта здабыць, адшукаць, задаво-

Галіна Мікалаеўна, бы ўгадаўшы гэтыя мае думкі, кажа:

— Пры любых варунках рэдкую кнігу мы вырашылі не чапаць. Гэта наша унікальная скарбніца, яе кратаць нельга. Зрэшты, каштоўныя не толькі старадрукі. Яны хутчэй неацэнныя. Бо і любая іншая кніга, якая патрэбна чытачу, якая карыстаецца вялікім попытам, таксама каштоўная. А чытач наш — і агульнае паняц-



*Галіна Алейнік*

це, і вельмі канкрэтнае. Увогуле — гэта недзе каля сарака тысяч чалавек, якія зарэгістраваны ў нас на стацыянары і маюць чытацкія білеты. Штодня наведвае бібліятэку да паўтары тысячы з іх. І вельмі многія — нашы пастаянцы, нашы заўсёднікі, якіх і мы добра ведаем, і яны, трэба думаць, ведаюць нас. Праўда, актыўнасць чытацкая — не пастаянная, яна нейкая хвалепадобная. Скажам, недзе ў 1985—90 гадах быў спад, а прыкладна з 1992 года сітуацыя рэзка змянілася, на нас абрынулася магутная хваля студэнцтва. Тры — тры з паловай тысячы наведнікаў штодня — мы фізічна не вытрымлівалі такіх перагрузак. Давялося нават абмежаваць наплыў чытачоў, а з мая мінулага года мы абмежавалі абслугоўванне I—II курсаў. Мы любім студэнтаў, разумеем, што гэта наша будучыня, аднак жа, улічваючы, што асноўная іх літаратура напачатку — вучэбная, раім ім карыстацца найперш сваімі вузаўскімі бібліятэкамі. Само сабою, абслугоўваем і першакурснікаў, і нават ліцэістаў, але ўжо не агульным патокам, а тых, хто займаецца навуковай працай, каму патрэбна літаратура, якая ёсць толькі ў нас.

Гэты наплыў нас, на жаль, і засмуціў. Пачасціліся праявы вандалізму ў дачыненні да кнігі. Умудраюцца і старонкі вырываць, і вырэзваць лёзкам абзацы, табліцы. А гэта сёння — як нож у сэрца. Замяніць сёння сапсаваную кнігу практычна немагчыма. Пасля распаду Савецкага Саюза мы перасталі атрымліваць абавязковы ўсесаюзны кантрольны экземпляр. Ні Расія, ні іншыя былыя рэспублікі сёння нам кніг не прысылаюць. Кнігі беларускіх выдавецтваў, дзякуй Богу, атрымліваем — паводле пастановы Кабінета Міністраў. Ставім пытанне, каб апаратыўна быў распрацаваны закон пра абавязковы экземпляр. У рэспубліцы ў нас 10 дзяржаўных выдавецтваў і больш чым 1000 недзяржаўных. З апошніх кнігі даводзіцца проста выбіваць, як кажуць. Таму і патрэбен згаданы мною закон. Наша бібліятэка фармавалася з надзвычайнай паўнатой фондаў, а зараз крыніцы іх папаўнення перасохлі. Мы не склалі рук, дастаём неабходныя кнігі праз міжбібліятэчны абмен, але ніводная з такіх крыніц не заменіць метад абавязковага экземпляра. Без яго мы пакінем нашчадкам прагалы, а гэта ўсведамляць горка. Тым не менш, беларускія кнігі мы назапашваем з вычарпальнай паўнатой. Нават з недзяржаўнымі выдавецтвамі стараемся наладжваць кантакты. Інакш, паверце, мы не можам, гэта — наша праца, наш абавязак, абавязак душы, справа гонару і сумлення, нашай прафесіі, адным словам.

Дарэчы, кнігаабмен, пра які я гаварыла, мы наладжваем не толькі ўнутры краіны, але і з бібліятэкамі краін садружнасці. Праводзім і ўдзельнічаем у кніжных кірмашах, на якіх завязваем кантакты з замежнымі выдавецтвамі, сёе-тое купляем, на нешта заключаем кантракты.

І калі ўжо зайшла гаворка пра такія рэчы, дык нагадаю, што Нацыянальная бібліятэка — гэта і навукова-метадычны цэнтр для ўсіх бібліятэк краіны, незалежна ад іх ведамаснай прыналежнасці. Усе нарматыўныя дакументы, рэгламентуючая дакументацыя адпрацоўваецца ў нас. Выдаём мы і бібліяграфічныя даведнікі. З 1961 года выдаём даведнік "Новыя кнігі Беларусі", пазней з'явіліся самыя розныя. Вось, напрыклад, "Гісторыя і гістарычныя навукі", а вось — "Чарнобыль". У апошнім адлюстравана ўсё, што датычыць чарнобыльскай аварыі. І не толькі тое, што друкуецца ў нас, а і ў раёнах прыбліжаных — Чарнігаўскай, Смаленскай абласцях. Да ўсяго — бібліятэка праводзіць розныя мерапрыемствы — прэзентацыі кніг і аўтараў, юбілейныя выставы і сустрэчы, дыспуты і абмеркаванні.

У 1991 годзе мы сталі, так бы мовіць, на шлях аўтаматызацыі. А што такое аўтаматызацыя ў бібліятэчнай справе? Гэта не проста ўвесці тую ці іншую кнігу ў камп'ютэр. Яе трэба забяспечыць пошукавымі дадзенымі, каб пасля лёгка і хутка адшукаць. Для бібліятэкара гэта сістэма індэксавання і лінгвістычнага забеспячэння. Сёння мяняецца тэхніка і тэхналогія. Усе кнігі, якія паступаюць у нашу бібліятэку, праходзяць аўтаматызаваную апрацоўку і закладваюцца ў электронны каталог. Мяркуем зрабіць зводны каталог кніг буйнейшых бібліятэк краіны. Наша міністэрства прыярытэтным напрамкам сваёй дзейнасці вылучыла камплектаванне фондаў (наш недаступны боль!) і камп'ютэрызацыю бібліятэкі. У першую чаргу — гэта стварэнне электронных каталогаў. Зараз мы назапашваем электронныя базы на кнігі

*(Працяг на стар. 12)*

## "Беларуская Навука" ў 1997-ым...

**Аматары літаратуры, бадай, звярнулі ўвагу на тое, што з'явіліся першыя кнігі, на вокладцы якіх пазначана: "Беларуская навука". З'явілася выдавецтва нядаўна, а ідэя ўтварэння "БН" належыць колішняму старшыні Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку У. Бельскаму. Дырэктарам выдавецтва стала Л. Пятрова, якая дагэтуль дваццаць пяць гадоў працавала ў выдавецтве "Навука і тэхніка", доўгі час была галоўным рэдактарам, спалучаючы выдавецкую дзейнасць з навукова-даследчай.**

**Чым жа парадуе чытачоў "Беларуская навука" сёлета? Аб гэтым дае ўяўленне тэматычны план на 1997 год.**

**Пабачыць свет чарговая, шостая кніга зборніка "Беларусіка", у якую ўвойдуць матэрыялы II Міжнароднага кангрэса беларусістаў (май 1995 г.), прысвечанага гісторыка-культурнаму ўзаемадзеянню Беларусі з іншымі краінамі і народамі, а таксама праблемам нацыянальных супольнасцяў нашай краіны. Уключаны даклады, прысвечаныя беларускай дыяспары, праблемам рэстытуцыі беларускіх матэрыяльных і духоўных каштоўнасцяў.**

**Чарговай кнігай папоўніцца і васьмітомнае выданне "Беларусы". Том называецца "Сям'я". А назвы наступных выданняў, думаецца, гавораць самі за сябе — "Каляндарна-абрадавая творчасць беларусаў. Сістэма жанраў. Эстэтычны аспект" А. Ліса, "Духоўная спадчына Старадарожчыны. Этнаграфічна-фальклорныя матэрыялы" У. Сысова, "Мінулага яскравы след. Фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы Крупшчыны" А. Цітаўца, "Вясенне-летні цыкл абрадавай паэзіі Піншчыны. Узроўні прасторава-часавых адносін" В. Шарая, "Народная інструментальная культура беларускага Паазер'я" А. Скорабагатчанкі, "Творчасць А. Мрыя і Л. Калюгі. Стылёвыя асаблівасці" З. Драздовай, "Чалавек і прырода ў сучаснай прозе" В. Козіч, "Пісьменства Вялікага княства Літоўскага. Адраджэнне і ранняе барока" І. Саверчанкі, "Пячаткі Вялікага княства Літоўскага" А. Краўцэвіча...**

**У кнізе А. Ненадаўца "За смугою міфа" ў цэнтры ўвагі — папулярныя персанажы нацыянальнай дэманалогіі: ваўкалак, лесавік, вадзянік і дамавік. Аналізуецца вялікая колькасць твораў фальклору, прыведзены прыклады з этнаграфічных і фалькларыстычных прац канца XIX — пачатку XX ст.**

**"Пан Тадэвуш, або Апошні наезд у Літве. Шляхоцкая гісторыя з 1811 і 1812 гг. у дванаццаці кнігах вершам" — канечне ж гэта А. Міцкевіч. Друкуецца пад адной вокладкай польскамоўны тэкст і яго пераклад на беларускую мову, зроблены П. Бітэлем у савецкім лагеры ў Кемераўскай вобласці.**

**Пачынаецца выданне "Слоўніка мовы Купалы" ў васьмі тамах. Запланаваны выхад "Беларуска-рускага і руска-беларускага музычнага слоўніка" ў двух тамах, "Руска-беларускага політэхнічнага слоўніка", 17-га выпуску "Гістарычнага слоўніка беларускай мовы", "Тэрміналагічна-тлумачальнага слоўніка па філасофіі".**

**У планах выдавецтва і іншыя выданні, якія, несумненна, зацікавяць масавага чытача.**

## Запрашае "Зьніч"

**Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра "Зьніч" запрашае гледачоў на свае спектаклі ў сакавіку. У панядзелак, 10, а 16 гадзіне ў выкананні заслужанага артыста Беларусі Уладзіміра Шэлестава пройдзе монаспектакль "Кроткая" паводле твораў Ф. М. Дастаеўскага. 15 сакавіка, у суботу, а 19 гадзіне — "Віленскія мроі" паводле ўспамінаў Юльяны Вітан-Дубейкаўскай. Спектакль расказвае пра асобу Івана Луцкевіча. Выканаўца — Галіна Дзягілева. 24 сакавіка, у панядзелак, а 12 гадзіне пройдзе "Маленькі анёлак" — монаспектакль для дзяцей, па п'есе Сяргея Кавалёва, створанай паводле вершаў Кармэн Барнос дэ Гаштольд, французскай манахіні з роду беларускіх магнатаў Гаштольдаў. Выканаўца — Раіса Астрадзінава. Усе спектаклі адбудуцца ў дольнай зале Чырвонага касцёла. 27 сакавіка, у чацвер, у памяшканні Нацыянальнай бібліятэкі, у рамках абанемента "Тайна зьнічнага святла" адбудзецца чарговая сустрэча, на гэты раз з дзвюма асобамі — паэтамі Людмілай Рублеўскай і Віктарам Шніпам. Сустрэча мае назву "А ў гасцях, а ў гасцях шум і тлум"... згодна радку вядомай песні на словы Віктара Шніпа.**

*Даведкі па тэл.: 220-44-15, 231-75-53.*

УГОДКІ

4 сакавіка Міхасю Дубянецкаму было б 70...

# З высакароднага саслоўя

Міхась Дубянецкі належаў да таго высакароднага саслоўя нашага народа, якое некалі звалася народнай інтэлігенцыяй і якое цяпер сышлося на клін. Ён быў ці не з ліку апошніх. Гэтым людзям, якія, канешне ж, вельмі розніліся між сабой паходжаннем, розумам, нават партыйнасцю, заўжды болей балела не так сваё, асабістае, як народнае, нацыянальнае, і яны кожны ў меру сваіх сіл і здольнасцяў рупіліся менавіта ў гэтым сэнсе. Хоць тое было дужа не проста, часам небяспечна не толькі дзеля асабістага дабрабыту, свабоды, але і жыцця. Не зважаючы на тое, Дубянецкі заўсёды рупіўся — калі працаваў у журналістыцы, у партыйных органах. І асабліва ў выдавецкае справе. Менавіта ён найбольш прычыніўся тады да выдання маёй самай канфліктнай аповесці "Мёртвым не баліць".

Гэта была адчайная спроба, бо на аповесці ляжала суровая забарона ЦК КПСС, якую ў межах імперыі не мог пераступіць ніхто. Выдавецтва, якім кіраваў Дубянецкі, тым не менш набрала яе тэкст і даслала ў Галоўліт. Збянтэжаны Галоўліт, натуральна, звярнуўся ў ЦК КПБ, адкуль на яго здзіўленне, паступіў даволі няпэўны адказ у сэнсе — вырашайце самі. Галоўліт нерашуча залітаваў, але тут жа стукнуў у Маскву, адкуль даслалі катэгарычную каманду "Стоп!" Ужо з паліграфкамбіната кніжку вярнулі ў выдавецтва. Што ў такой сітуацыі зрабіў бы кожны іншы выдавецкі дырэктар? Па-вайсковаму ўзяў бы пад казырок і адказаў звыклае "Ёсць!"

Міхась Хведаравіч не ўзяў пад казырок. Пасля не надта вясёлых перамоў з беларускім ЦК склаў годную тэлеграму, якую адаслаў у Маскву на імя ўсемагутнага кардынала Суслава. Даведаўшыся пра тое, я дужа пашкадаваў мілага дырэктара і сказаў яму пра тое. Міхась Хведаравіч з усмешкай выслухаў мяне і сказаў прыкладна так: "Усё правільна. Але мы будзем пратэставаць. Годзе маўчаць!"

Так, ужо наспявала ўсведамленне неабходнасці хоць бы маральнага супраціву дыктатуры, разуменне згубнасці нашага шматгадовага канфармізму. І адным з першых ластавак нашага абуджэння стаўся Міхась Хведаравіч Дубянецкі. Затым ягоны супраціў набыў яшчэ болей канкрэтныя формы, калі ён апынуўся сярод тых, хто стварыў нацыянальны "Мартыралог" — гэты папярэднік Беларускага народнага фронту, калі стаў паплечнікам ягонага лідэра Зянона Пазняка. Вялікае няшчасце наша, што Бог не даў Дубянецкаму болей жыцця і забраў да сябе ў самым пачатку трагічнага Адраджэння.

Але і тое, што давялося яму зрабіць, несумненна, падвышае яго чалавечы гонар, таксама як і маральны гонар нашай шматпакутнае нацыі.

**Васіль БЫКАЎ**

## *Наўздагон*

Татку

***сцішна вада шапоча***
***тоне пылок вярбовы***
***ў цёмных вірах***
***штосьці сказацца хоча***
***ды заблукалі словы***
***ў цёмных барах***

***човен убіўся ў травы***
***што табе не плывецца***
***рэчкая мая***
***стрэне пагляд ласкавы***
***што табе не жывецца***
***доню мая***

***зблытана багавінне***
***ды на крывой вярбіне***
***лісця няма***
***спыненыя аблокі***
***з гэтай дзіцця затокі***
***выйсця няма***

**Галіна ДУБЯНЕЦКАЯ**

1991

# Дубянецкі

Хто Ён быў?

Заўсёдны адраджэнец і абаронца беларускае кнігі?!

Грамадскі дзеяч нацыянальна-дэмакратычнага напрамку?!

Літаратар-перакладчык, улюбёны ў польскую, украінскую і рускую прозу?!

Цудоўны бацька і муж?!

Геніяльны выдавецкі дырэктар?!

Спіс гэтых рытарычных пытанняў можна доўжыць...

Так, Ён і адраджэнец, і нацыянальны дэмакрат, і перакладчык, і цудоўны сем'янін, і непараўнаны ні з кім выдавецкі дырэктар (Барадулін, дарэчы, беспамылкова жартаваў, калі прапаноўваў замест паняцця в ы д а в е ц т в а "Мастацкая літаратура" ўвесці паняцце д у б я н е ц т в а "Мастацкая літаратура").

Аднак жа перш за ўсё Ён быў летуценнікам, падарожным з Купалавай паэмы "Забытая скрыпка", бескарыслівым уладаром кніжнага каралеўства...

Перад Ім, як і перад героямі Стэфана Жаромскага, томік прозы якога Ён выдатна пераклаў: "...нібыта... мур, узнікала рэчаіснасць: зачыняліся брамы гэтага муру з усіх бакоў, і беспрасветная турма жыцця закоўвала рукі ў кайданы".

Аднак Ён пераадольваў такую рэчаіснасць сваёй евангельскай даверлівасцю і гэткаю ж усмешкаю.

Ягоная ўсмешка мела здзіўленне і якасць маладога віна: няўжо заўсёды трэба ліцца толькі ў старыя бочкі?

Яму казалі: трэба!

А Ён тым часам стаўляў на стол непрадказальнай формы крышталь...

Я ведаў Яго з тых гадоў, у якія сваю чыноўную пасаду Ён ператварыў у пасаду творчую. Як гэта Яму ўдалося, знаходзячыся пад наглядам Дзяржкамвыда, ЦК партыі, цэнзуры, органаў бяспекі? Адказ просты — мала клапаціўся пра сябе і не рабалепстваваў. Такая формула Ягонай мужнасці. І яшчэ — не баяўся абараняць творы майстроў і літаратурных пачаткоўцаў. Не баяцца, не рабалепстваваць — ці не вышэйшая ступень інтэлігентнасці!

Якім Ён быў раней — тады, калі жыў у Пінску і ў Ляхавічах, калі вучыўся ў Вышэйшай партшколе, калі працаваў у выдавецтвах "Беларусь" і "Ураджай"?

Не ведаю, але даю сабе дазвол на пэўную здагадку — таксама не рабалепстваваў.

З Ім было надзейна скрозь — у выдавецкім калідоры і за алкагольным сталом, у службовым кабінеце і на вуліцы, у выпадковым начным транспарце і нават у бальнічнай палаце.

Кожная сустрэча, дзе б ні адбывалася, нібыта змястоўная кніга, прачытвалася прытном ад першай да апошняй старонкі.

Ён не павучаў і не здзіўляў старанна падрыхтаванымі цытатамі, не аздабляў чало глыбакадумнымі маршчынамі і не прыпісваў сабе афарызмы кшталту: там, дзе шмат філасофіі — філасофія знікае...

Умеў не нашкодзіць вуснаму слову — свайму і чужому.

Разумеў: у свеце ёсць лішнія кнігі (яны як тыя кветкі, што не тоўпяцца ў цеснай вазе), аднак жа кніг, выдадзеных па-беларуску, лішніх не бывае.

Аднойчы, з раніцы да вечара, дапытліва і цярпліва пераглядаў сваю немалую хатнюю бібліятэку з мэтаю — праверыць свой густ кніжнага пакупніка. З кожнай даўнякупленай (вядома ж, тады і прачытанай) рэчы перачытваў па некалькі старонак і ўрэшце застаўся задаволены, бо амаль не знайшоў памылкова набытых выданняў.

У верасні-кастрычніку 1939 года Ён, вучань польскай школы, бачыў, як новая ўлада кідала ў агонь тамы Міцкевіча, Славацкага, Норвіда, Сянкевіча, Пруса, Элізы Ажэшкі... Перажытае не магло не абудзіць у душы супраціў варварству. Для мяне відавочна, што менавіта з таго часу Яго адносіны да кніг набылі якасць своеасаблівай рэлігійнай ашчаднасці, а дакладней, пакланення. Я не перабольшваю, бо паводле Яго ўяўлення (што мне вядома пэўна) кніга — асяродак звышнатуральнага ўздзеяння.

Гэта трэба было бачыць, як Ён трымаў, далікатна ўзносячы над сваім дырэктарскім сталом, сігнальны асобнік таго ці іншага вершаванага зборніка, або нейкае рарытэтнае выданне.

Сапраўды, гэта трэба было бачыць...

Так, мусіць, праведнік Ной трымаў на далоні голуба перад тым, як з надзеяй на выратаванне адпусціць яго ў неба.

Што мне ў Ім не падабалася?

Дабрыня.

Так, дабрыня, бо яе ставала на ўсіх — на тых, хто быў варты яе, і на тых, хто быў не варты. Зразумела, што найчасцей Яго дабрынёю карысталіся "не вартыя". Ён заўважаў гэта, але не пярэчыў, адно ўсміхаўся: няхай, таксама ж людзі, бо хіба вінаватыя, што Бог ім даў слізкую натуру?

І, падбадзёраныя такой велікадушнасцю, "не вартыя" стараліся — карысталіся Яго людскасцю напоўніцу. Здаралася, я з сорамам адчуваў, што знаходжуся таксама ў іхнім шматколькасным легіёне...

Аднойчы Ён сказаў мне:

— Што зробіш, калі горшым людзям заўсёды трэба мець усяго больш, чым лепшым.

— Чаму?

— Бо горшыя не ўмеюць жыць малым.

Пачуўшы гэта, я падумаў, што палюбіў бы Яго яшчэ мацней, каб Ён быў злы.

Было і такое — да позняга вечара мы гаварылі пра Варшаву, якую Ён вельмі любіў. Ён быў у Варшаве да вайны, а я толькі збіраўся туды, трызнячы някляеўскім радком: "Варшаву для кахання Бог стварыў!.."

— Мне пашчасціла ўбачыць Варшаву аўтэнтычную (адно з любімых Яго слоў). Пасля вайны разбуранае аднавілі, але аднаўленне старога — гэта ўсё ж новая будоўля...

У той вечар Ён паказаў мне свой пераклад (каля двухсот машынапісных старонак) аповесці Войцэха Жукроўскага "Лётна" і папрасіў перадаць аўтару аповесці ліст, напісаны па-польску.

Ліст гэты Жукроўскі прачытаў пры мне і ў захапленні прамовіў, што калі пан Дубянецкі так дасканала валодае польскай мовай, то можна быць спакойным за пераклад "Лётны".

Дамоў вяртаўся я з лістом Жукроўскага і сваім празаічным эцюдам. Вядома, і ліст, і гэты мой вандроўны эцюд былі адрасаваныя Яму.

### У ВАРШАВЕ

*М. Ф. ДУБЯНЕЦКАМУ*

Бачу Цябе, Варшава, — тваё пакутна-адноўленае хараство.

Перада мною ўсе твае колеры, ся-

род якіх пераважаюць жоўта-белыя, блакітна-белыя і бела-чырвоныя адценні. Часцей за ўсё яны перакрыжоўваюцца на франтонах касцёлаў і відны здалёк. Іхнія доўгія палосы, нібы раскручаныя шпалеры, утварылі сімволіку, якая лёгка прачытваецца — жоўта-белыя колеры Ватыкана адзіныя з блакітна-белымі колерамі польскага Касцёла. Да гэтага шматвяковага адзінства мусіў быў далучыцца і дзяржаўны сцяг ПНР.

Учора ці пазаўчора Ты развіталася з папам. Ён усміхаецца Табе з вітрынаў прыкасцельных кіёскаў і з вокнаў прыватных крамак. На ўсіх фотаздымках толькі ён — Ян Павел II.

У белай пюсцы і з вітальна ўзнятымі рукамі ён падобны на голуба, які ляціць і захоўвае ў сабе цяпло Ноевай далоні. А пад ім ва ўсе бакі расцякаецца патоп містычнага ўзрушэння і веры ў цуд. І кожны ў натоўпе ўпэўнены ў абавязковай магчымасці цуду. Нават аматары класічнай польскай паэзіі назвалі б гэты патоп і палёт голуба над ім — самой паэзіяй. Ім цяпер падалося б ерэтычным ранейшае ўяўленне, што паэзіяй можа быць звычайнае возера, у якім р а з а м купаюцца дзяўчаты і зоры...

Варшава, Ты нечаканая ва ўсіх сваіх трагедыях і такая ж — у любым здарэнні.

Вось на Маршалкоўскай у недазволеным месцы спыняецца маленькі "фіяцік". Маладая манашка, гаспадыня машыны, устрывожаная — нешта зрабілася з маторам. Але трывогі — як і не было. Да манашкі падыходзіць вайсковец і прапануе дапамогу. Яны амаль равеснікі, і кожны па-свойму фарсісты. Ён — у лёгкім фрэнчы, яна — у тонкім, падобным да вячэрняга ўбрання, габіце.

Афіцэр уладкоўваецца за руль і правярае запальванне. Побач, на вольным сядзенні — стос каталіцкіх часопісаў і гурбачка каляровых здымкаў. На вокладках знаёмыя партрэты папы, а на адваротным баку фота, што прымацавана да лабавога шкла, ягоны аўтограф: "Спакою табе, Польшча, мая Бацькаўшчына". Пажаданне зразумелае, і выказаў яго чалавек катэгарычны, якому наканавана ў жыцці больш адказваць, чым пытацца.

"Фіяцік" слухаецца спрактыкаванага вайскоўца. Нічога страшнага, здаецца, й не было — нейкая там драбяза з запальваннем.

А што ж манашка?

Яна, як і любая палячка, проста зачараваная вайскоўцам. З усмешкаю прадбачлівай Евы падае на памяць пану афіцэру фотакартку.

"Фіяцік" бяжыць далей па Маршалкоўскай, а маладому вайскоўцу застаецца толькі ўздыхнуць. На картачцы замест чаканага аблічча манашкі — усё тая ж усюдыісная постаць папы. Гэтым разам — журботная і згорбленая. Каля касцёла святога Станіслава Косткі Ян Павел II схіліўся над магілай ксяндза Папялушкі...

Я запомню, Варшава, усе твае колеры.

*чэрвень, 1987*

Пасля яшчэ тройчы я наведваў Варшаву, глядзеў на яе адноўленыя "неаўтэнтычныя" муры і думаў пра дзесяцігадовага палескага хлопчыка Міхала, якому за выдатную вучобу паказалі сталіцу той дзяржавы, у якой ён нарадзіўся.

Я зайздросціў гэтаму хлопчыку, бо ён бачыў тое, чаго я ніколі не ўбачу.

Кім Ён быў — мне вядома.

А хто Ён цяпер?

У маёй памяці Ён усё той жа паэт, які не складае вершаў, а валодае больш высокім мастацтвам — разумее чужыя душы...

Аднойчы Ён спяшаўся на сваю выдавецкую службу і сустрэў пісьменніка, якому па вядомай прычыне з самае раніцы "свет быў нямілы".

— На жаль, братка, не маю часу з табою пабыць, — сказаў Ён прыгнечанаму пісьменніку, — але вось табе ключ, зайдзі да мяне, адпачынь, а ў халадзільніку знойдзеш усё, што трэба. І не саромся, маіх дома няма. Жонка на працы, а дочкі на вучобе...

Вядома, пасля такой увагі прыгнечаны пісьменнік адразу акрыяў душой і з удзячнасцю скарыстаў Яго прапанову.

Ягоны дух высока вандруе па беларускай прасторы, асноўная сутнасць якой — сямейнае цяпло, а Ягоная душа маркоціцца па родных — па жонцы Марыі, па дочках Іры і Галі.

Дух відушчы і душа таксама не сляпая, таму кожны клопат самотнай сям'і бачны і вядомы, а кожная радасць, нават маленькая, успрымаецца як суцяшэнне.

Дух задаволены, што спадарыня Ірына ў Лондане, а спадарыня Галіна ў Мінску.

А душа супакоеная праз тое, што спадарыня Марыя заўсёды ДОМА.

**Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК**

ВІНШУЕМ!

# Як само жыццё

## Міхасю КАЦЮШЭНКУ — 50





Многія пісьменнікі пачыналі з журналістыкі. Міхась Кацюшэнка — не выключэнне. Дзевятнаццацігадовым прыйшоў ён у рэдакцыю газеты "Чырвоная змена", дзе і праходзіў свае "універсітэты", спасцігаючы азы майстэрства газетчыка. Вышэйшую ж адукацыю атрымліваў на вячэрнім аддзяленні.

Імя яго тады (з сярэдзіны 60-х да пачатку 70-х гадоў) у "Чырвонцы" можна было сустрэць ледзь не ў кожным нумары. Прытым пад самымі рознымі матэрыяламі. З-пад яго пяра з'яўляліся нарысы, фельетоны, праблемныя артыкулы, замалёўкі, карэспандэнцыі. Ва ўсіх адчувалася неабыякавасць маладога аўтара да паўсядзённага жыцця, імкненне разабрацца ў яго складанасцях і праблемах, жаданне самому дайсці да ісціны. А яна давалася няпроста. Прыгадайма, якія тады былі часы. А М. Кацюшэнку ж часта даводзілася выязджаць у камандзіроўкі, нярэдка — разбірацца з несправядлівасцю, пра якую гаварылася ў чытацкіх лістах. І ён імкнуўся ва ўсім разабрацца. І хацеў нязменна сказаць праўду. Тую праўду, да якой імкнуўся сам і якой, хацеў, каб кіраваліся іншыя.

Не сакрэт, што жыццё газетнага матэрыялу часам вельмі кароткае. Надараецца, што "жыве" ён толькі некалькі дзён. Асабліва, калі аператыўны. Канечне, нешта такое пісалася і М. Кацюшэнкам. Але дастаткова перагарнуць падшыўкі "Чырвонай змены" за тыя, цяпер ужо даўнія гады, каб упэўніцца: многае з напісанага М. Кацюшэнкам і сёння чытаецца. Па ім можна яскрава ўбачыць і адчуць, чым мы жылі і як жылі. А для газетчыка вельмі важна не збіцца на штампы, павярхоўнасць, але куды важней — выпрацаваць уласны стыль.

Яго М. Кацюшэнка выпрацаваў і гэта аказала добрую паслугу пазней, калі зарэкамендаваў сябе як празаік. Пачатак зноў жа быў пакладзены ў маладым узросце — першыя навелы "Чаравік" і "Кніга" апублікаваў у "Чырвонай змене" ў 1966 годзе. Але да першай кнігі было яшчэ далекавата — яна пабачыла свет толькі ў 1972 годзе і называлася "Первая осень". Так, на рускай мове выйшла. Дзіця горада (нарадзіўся ў Мінску), М. Кацюшэнка ў прозе вальней адчуваў сябе яшчэ ў рускамоўнай стыхіі. Таму і другую кнігу "Третий раунд" таксама выдаў па-руску (1977).

Абодва гэтыя зборнікі, канечне ж, у нечым і пошукі свайго месца ў літаратуры, і разведка характараў. Тым не менш лепшыя творы засведчылі — М. Кацюшэнку ёсць пра што сказаць і ён умее гэта рабіць па-свойму. Не паўтараючы іншых.

Свайго роду нерв яго першых твораў — дакладнае адчуванне сучаснасці, а яшчэ ўменне на звычайным, здавалася б, матэрыяле закрануць важныя маральна-этычныя праблемы. Гэтыя якасці належным чынам праявяцца ў наступных кнігах пісьменніка.

А яшчэ М. Кацюшэнка шукаў сваю тэму. І тут таксама дапамог вопыт газетчыка. Яму ж давялося нямала пісаць пра спорт і спартсменаў. Героі аповесці "Третий раунд", што склала змест яго другой кнігі, вучні, якія мараць стаць баксёрамі, але неўзабаве ўпэўніваюцца, што і ў спорце, як і ў паўсядзённым жыцці, свае складанасці. Каб перадолець іх — мала выйграць паядынак. Ёсць яшчэ і "раунды" жыццёвыя. Іх выйграюць не столькі самыя смелыя, валявыя, моцныя, колькі прынцыповыя і сумленныя.

Кнігі М. Кацюшэнкі "Адзін дождж на ўсіх" (1979), "Дні, як усе іншыя" (1981), "Сустрэча пасля развітання" (1984) у пэўнай ступені кардыяграма душы нашага сучасніка. І не толькі равесніка аўтара — М. Кацюшэнка пільна прыглядаўся і да старэйшага пакалення, імкнучыся разабрацца ў каштоўнасцях сапраўдных і ўяўных, паказаць, наколькі ідэал адпавядае рэальнасці. Але найбольш яго цікавілі людзі маладыя, тыя, хто толькі ўваходзіў у жыццё і сутыкаўся з першымі цяжкасцямі.

І зноў жа М. Кацюшэнка "герояў" не выдумляў, а браў з жыцця. Назва адной з яго аповесцяў — "Дні, як усе іншыя" — сімптаматычная. Сапраўды, тое, што адбываецца ў творы, не нешта выключнае, яно звычайнае, будзённае, сатканае са звыклага, але за гэтым звыклым шмат і таго, што дазваляе лепей раскрыцца чалавечым якасцям, калі сам чалавек да гэтага настойліва імкнецца.

Я не хачу сцвярджаць, што ўсё ў М. Кацюшэнкі раўназначнае па мастацкіх якасцях. Асабліва, калі да яго твораў падысці з нашага цяперашняга разумення жыцця. Канечне ж, і М. Кацюшэнка, пішучы асобныя з іх, не здолеў пераадолець пэўнай зададзенасці, найперш калі гэта тычылася вытворчых канфліктаў і ўзаемаадносін. Ды будзем шчырымі: хто, калі не крытыкі, падштурхоўвалі пісьменнікаў пісаць пра гэта, а не пра іншае? І яны стараліся як мага лепш выканаць "сацыяльны заказ", а як атрымлівалася — іншая справа.

Але ж у М. Кацюшэнкі, як і ў іншых літаратараў, хто плячо ў плячо з ім уваходзіў у літаратуру, найбольш таго, што з'явілася з-пад пяра па душэўным парыве. Як і аповесць "На адны суткі" (рускамоўны варыянт "Главная командировка" ў кнізе "Один дождь на всех", выпушчанай у 1985 годзе выдавецтвам "Молодая гвардия"). У ёй пісьменнік праўдзіва расказаў пра маладых газетчыкаў. У вобразе галоўнага героя журналіста Калінкі ёсць, безумоўна, і пэўныя аўтабіяграфічныя моманты. Ён змагаецца з тымі, хто абыякавы да чужой бяды, і ў гэтым няпростым паядынку выходзіць пераможцам. І разумее, што ў імкненні да справядлівасці і трэба шукаць сапраўдны сэнс жыцця.

Раман "Урок маўчання", які разам з асобнымі апавяданнямі ўвайшоў у аднайменную кнігу (1988), засведчыў, што М. Кацюшэнку па сіле і вялікія празаічныя жанры. Праблематыка твора — зрэз дня сённяшняга і мінулага, развагі аб тым, як падзеі Вялікай Айчыннай вайны адгукваюцца ў лёсах людзей і тое, што, здавалася б, даўно забыта, нечакана нагадвае аб сабе, а ў выніку чалавек трапляе ў становішча, з якога вельмі цяжка знайсці нейкае прымальнае выйсце, каб у вачах блізкіх застацца сумленным.

Менавіта перад такім парогам безвыходнасці апынулася галоўная гераіня рамана Алена Жыліч. Яна, якая сумленна прайшла праз вайну, выконваючы грамадзянскі абавязак, мусіць пераадолець праз маральнае ачышчэнне. Былой разведчыцы, а цяпер настаўніцы даводзіцца цяжка, неймаверна цяжка. І зноў жа, у творы — як у самім жыцці. М. Кацюшэнка не проста расказвае пра драматычны лёс, хоць і робіць гэта пераканаўча, а да ўсяго ў рамане прываблівае напружанасць дзеяння, вастрыня сюжэту, дынамізм. Ён робіць сапраўдны псіхалагічны аналіз, зазіраючы ў душу адной з тых, для каго вайна з яе заканчэннем у маральным плане не скончылася.

Не развітаўся М. Кацюшэнка і са спартыўнай тэмай, што засведчыла аповесць "Прызнанне левага крайняга", якая дала назву чарговай кнізе (1990). Героі гэтага твора — прафесійныя футбалісты. Але ёсць у аповесці і як бы абагульнены вобраз — СПОРТ. Асобныя выпадкі, пакладзеныя ў аснову, мелі месца ў сапраўднасці. Надзіва пераканаўча і публіцыстычна востра раскрываюцца гульні іншага кшталту, чым на футбольным полі — тая закулісная барацьба, якую вядуць між сабой дзялкі ад спорту. І тым самым калечаць людскія душы, падрываюць веру ў сапраўдны спорт.

Актуальна прагучаў і раман "Сітуацыя", што таксама ўвайшоў у гэтую кнігу. Галоўны герой Сівалап, па логіцы, мусіць быць усім задаволены. Толькі б радавацца — ёсць цудоўная кватэра, дача, уласная "Волга", а да ўсяго — службовы аўтамабіль. Ды і пасадай не абдзелены. Але такая ўжо людская натура, калі хочацца чагосьці большага. Само па сабе імкнуцца да лепшага — няблага, але калі пры гэтым не парушаюцца маральныя прынцыпы. Апошняга пра Сівалапа не скажаш. Ён і раней не асабліва задумваўся, каб сродкі дзеля дасягнення мэты не ішлі ўразрэз з сумленнем, а цяпер, калі адчуў смак улады, тым больш...

Напісана М. Кацюшэнкам шмат. І ў пераважнай большасці гэта тое, што і сёння цікава перачытваць. А, значыць, набыткі пісьменніка плённыя, і сваё 50-годдзе ён сустракае са значным задзелам. Таму застаецца толькі пажадаць Міхасю Пятровічу поспехаў і ў далейшым!

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

*Сплюшчыцца, зажмурыцца, карпець,*
*Заклінаць, маліцца, узмацнець,*
*Вычакацца, зрушыць, узысці,*
*Выпрастацца, здолець, расцвісці,*
*Сцішыцца, прыслухацца, зápець,*
*Згорбіцца, спружыніцца, ўзляцець.*

●

*Залатымі разводамі цені,*
*Вечаровага сонца крыло,*
*Каля купкі бяроз-летуценніц*
*Птушка ночы абрала жытло.*

*Разгаданае тайны не трэба*
*Ў чарадзейных адкрыццях хвілін,*
*Мітусліва ахрысціцца неба*
*Перад святам начных імянін...*

## Наталля ВОЛКАВА

●

*Я не згаджуся на другую долю,*
*Сама павінна шлях свой адшукаць.*
*І я чужую не жадаю ролю*
*Бясслаўна на жыцця падмостках граць.*

*Не веру, што нікому непатрэбна*
*Душа мая аднойчы хоць была.*
*Ты сэрцам, лёс, маім, прашу —*
*не грэбуй,*
*Бо кветка-папараць і ў ім цвіла...*

●

*Я не памру. Віхор маіх пачуццяў*
*Не прападзе. Ён не рассеецца "за так",*
*Не знікне, як ільдзінка на распуцці,*
*Прадоўжыцца, бы ў творчасці — мастак.*

*Я не памру. Не прападуць ідэі,*
*Не сыдзе у нябыт душа мая.*
*Не страчу ўзнёсласць думкі і надзеі*
*І мне бацькамі данае імя.*

*Не згіне маё сэрца трапяткое,*
*Каханне не азмрочыцца святло.*
*Не страцяцца учынкі. Ды якое б*
*Без гэтага ўсяго жыццё было?..*

*Я не памру. Такога быць не можа,*
*Каб тое знікла, чым душа жыла.*
*Я не памру: ёсць у імгненні кожным*
*Свой мудры сэнс, як крылы у арла.*

## Ніна ЗАХАРЭВІЧ

### Адгадка

*Без каго натоўп, як жыта —*
*Без валошак-васількоў?*
*Без ваганняў адкажыце:*
*Без жанчын і іх абноў.*

*Без каго бяседа ў хаце,*
*Нібы сварка між мужчын?*
*Вельмі доўга не гадайце:*
*Ну, вядома ж, без жанчын.*

*Калыханка "лю-лі", "лю-лі"*
*Без каго не так гучыць?*
*Ну вядома ж, без матулі,*
*І дзіцятка не маўчыць.*

*Не прычэсаны дзяўчаткі,*
*Коскі не заплецены:*
*Не было у хаце маткі*
*Ці другой кабеціны.*

*Без каго мужчына тонкі,*
*Як у стэпе той кавыль?*
*Здагадаліся: без жонкі,*
*І завецца ён бабыль.*

### А ты ідзі...

*А ты ідзі, не сумнявайся,*
*Раз сэрца сэрцу не радня,*
*Маёй пяшчоты адцурайся,*
*Калі табе я не раўня.*

*А ты ідзі, прасіць не стану*
*Скупую ласку падарыць,*
*Хусцінку лёгкую дастану,*
*Змахну слязу: агнём гарыць.*

*А ты ідзі, калі так трэба,*
*Калі заве і вабіць даль.*
*Я не адна пад гэтым небам:*
*Са мной мой боль, вялікі жаль.*

*А ты ідзі, калі не горна*
*Мяне пакінуць назаўжды,*
*Хай маё сэрца, вугаль чорны,*
*Дыміць праз вёсны і гады.*

*А ты ідзі у свет далёкі*
*І не вяртайся больш назад.*
*Лічу сляды твае і крокі,*
*Пакуль дастане мой пагляд.*

*А ты ідзі. У сне вярніся,*
*Як будзе горка мне зусім,*
*І як калісьці усміхніся*
*Блакітным позіркам сваім...*

г. Паставы

## Тамара МАЗУР

●

*Ці кожнай ты нёс столькі болю*
*і шчасця?*
*Няўжо немагчыма што-небудзь адно?*
*Цябе захацела ад іншых украсці,*
*Нібы — на бяду — залатое руно.*

*Цябе я чакала на лёсу скрыжалях,*
*Знайшла, ды надоўга схаваць не магла*
*Ад тых, што супроць нашай*
*волі паўсталі,*
*Як быццам у волі загана была.*

*Мядовы і горкі, далёкі і родны...*
*Хай кіне каменнем якая ў мой бок.*
*Засведчу пад небам — жаночую годнасць*
*Не зганьбіць.*
*І будзе паважным мой крок.*

## Ларыса РАМАНАВА

●

*У цёплы, чысты, беззаганны вечар,*
*Калі спакой зямны атуліць плечы,*
*Знямога сыдзе ў нікуды,*
*Садзьмуцца ветрам ўсе сляды*
*Пакутаў, радасцяў былых, —*
*Ты — не шкадуй аб іх!*

*Вазьмі ў далоні снег ці попел,*
*Ці з сосен цёмных некалькі*
*празрыстых кропель —*
*Дый паспрабуй на смак.*
*І — хопіць.*

### Новы верш

*Я сню твой сон: правальваюся ў снег*
*І ў цішыню трапляю.*
*Бясконцы, доўгі шлях...*
*Сцяжынку асвятляе*
*Зіхоткае святло нябёсаў,*
*раптам — з краю —*
*Вароты нечае сядзібы, нечага жытла...*
*Дык гэта ж — д о м наш,*
*н а ш а я вакол — з я м л я!*

*Сады аж свецяцца "налівам" спелым,*
*арэхі — на галлі,*
*І тыя ж пекныя суніцы на зямлі,*
*І пчолкі ў старых вуллях;*
*жывуць ўжо колькі год,*
*Збіраючы паціху салодкі дзіўны мёд.*

*Выходзіць бацька з хаты,*
*сына абдымае,*
*Нячутна кажа нешта, слёзы выцірае...*

*Ты сніш мой сон?*

●

*Як добра ведаць: радасць ёсць!*
*Адчай ці смутак — ён часовы госць.*
*Я зноў па горадзе маім блукаю —*
*Анёлы-д'яблы, я вас зноў вітаю!*

*Ты ў горадзе жывеш,*
*дзе гаспадарыць ноч,*
*Зірнеш у вочы ёй, і далей крочыш,*
*Няспешна, крок за крокам, і —*
*у дворык,*
*Дзе месяц — толькі сведка,*
*але ж лісця шоргат...*
*Дзе вулачкі паўсюль вядуць да неба,*
*Дзе ёсць усё, што ёсць,*
*і што — не трэба.*

*Я кветачку рашчу, ахоўваю слязамі —*
*Каб і ў мароз цвіла, не замярзала.*

*Як добра ведаць: радасць ёсць...*

г. Ветка

страч чароўнай смуглявай багіні ў бліскучым ліловым купальніку. Яна сама ступае яму насустрач. І яна ідзе без страхоўкі... І гэта зусім небяспечна, але ён не можа пра гэта думаць, як не можа, не павінен глядзець уніз, саступаць... А яна не пайшла, яна ўзляцела і стала яму на плечы. Ап! Якім лёгкім быў гэты цяжар, гэтыя ліловыя крылы. Вось і пляцоўка. Ён дайшоў. Ён пераадолеў страх вышыні...

Але там, унізе, ужо не арэна — клетка. І вакол яе з брандспойтамі напагатове стаяць моцныя хлопцы. Яны з багіняй мусяць спусціцца ў клетку, па якой у нямой лютасці ходзяць, пырскаюць слінаю тыгры. Ап! І ліловая багіня кідае яму элегантны бізун... Ап! І ўжо тыгры адзін за адным ідуць, як толькі што ён, па гужы, па тоненькай дошцы. Аксамітная поўсць і налітыя крывёю вочы... Што чакаць ад іх у наступнае імгненне? А гэтая ўпартая смуглявая дзяўчынка прымушае скакаць іх праз вогненнае кола, стаяць на задніх лапах і нават падпяваць... Але класці галаву ў пашчу будзе ён, мужчына. І зноў ён адчувае, як наліваюцца сілаю, напружваюцца ўсе да адзінай ягоныя мышцы, і шалёная думка прыходзіць у галаву: "І чаго ж яны такія паслухмяныя?! Чаму дазваляюць нам, слабейшым, знушчацца з сябе?!"... Ап! Бо мы, бо я магу пераадолець страх, магу пераадолець сябе самога...

Натэла Вісліцкая... Натэла Вісліцкая... Алесь Коршак ужо апрануты, у куртцы пайшоў шукаць яе са службовага ўвахода. Можна было, вядома, аддаць гэтае бліскучае ліловае кола каму-небудзь з рабочых, і ён, пэўна ж, менавіта так і зрабіў бы раней, але сёння нешта адбылося з ім. Ён адчуваў сябе ізноў маладым і дзёрзкім, і ён нёс у сабе гэтае нязвыклае прыемнае пачуццё, як паветраны шарык. Каб жа толькі не лопнуў, не выслізнуў з рук... Толькі пёрадаць, толькі падарыць...

Арэна, зняможаная, засынала, а тут ліслівы ўдаў усё яшчэ ласціўся да змакрэлага факіра, акрабаты хадзілі ў трыко з бліскаўкамі, і клоуны не спяшаліся змываць грым, так і шлёпалі ў сваіх смешных даўганосых чаравіках. Натэла Вісліцкая, ужо ў строгай чорнай з белымі адваротамі сукенцы і чорным капялюшыку сядзела перад люстэркам у расчыненай грымёрцы. Яна зашпіляла на шыі жамчужнае калье і сустрэла Алеся Коршака мяккаю ўсмешкай здзіўлення.

— Вашае кола... Я прынёс вам вашае кола, — Алесь ледзь не выпусціў з рук паветраны шарык удачы. Але не, утрымаўся, толькі павёў плячыма, і адчуў, што шчокі залівае чырвань.

— Дзякуй. А я ўжо з ім развіталася, — яна імкліва ўстала і плаўна, адзіным рухам перакруціла, спусціла яго з ускінутых рук на падлогу, пераступіла, яшчэ раз пакланілася, зрабіла кніксэн і гэтаксама мякка ўсміхнулася...

— Можа быць, я вас праводжу? — у нейкай чароўнай эйфарыі выдыхнуў Алесь.

— Гэта было б цудоўна. Але... Але праз... — яна імкліва зірнула на гадзіннік. — Праз паўтары гадзіны мы ад'язджаем. І я не хацела б адступаць ад сваёй завядзёнкі. У кожным горадзе ў мяне свая традыцыя. Тут, у вас, я штовечар хаджу ў кавярню, тую, што цераз дарогу, і выпіваю кубачак кавы і кроплю бальзаму. Кроплю вашага беларускага бальзаму. Хочаце, пойдзем са мною...

І яна ў гэтай сваёй шчыльнай, у абцяжку, з белым каўнерам сукенцы і элегантным капялюшыку, і бліскучых сярэбраных туфліках выбегла з ім у дождж і адмовілася, так, што немагчыма было ўпрошваць, ад ягонае курткі з капюшонам.

У паўзмроку кавярні ён, як і яна, піў гаркавую каву і аксамітны бальзам... Яна была ўзбуджаная, шмат гаварыла, а ён... У яго было такое пачуццё, быццам і сюды ў кавярню ён прыйшоў з тым надарэчным ліловым колам ці паветраным шарыкам, які, калі не ўтрымаеш, можа выслізнуць з рук, можа лопнуць... Не, толькі не гэта... Толькі не гэта...

— Дык, значыць, вы філосаф... — яна цешылася, як дзіця, — Дзіўна, у кожным жа горадзе ёсць свае філосафы, а вось ніколі іх нідзе не сустракала. Вы першы.

— І я ўпершыню сяджу вось так, у кавярні, з цыркавою артысткай, — Алесь спрабаваў, прагнуў патрапіць з ёю ў тон, — А як вам наш горад?

— О! Ваш горад — магічны крышталь. Моцны, трывалы... Толькі, калі хочаш, каб ён ажыў, заімгліўся безліччу рознакаляровых агеньчыкаў, каб ён узрушыў цябе, трэба палюбіць яго ўвечары, уночы, вось у такі раптоўны, як сёння, лютаўскі дождж... Ну, гэта я пачынаю гаварыць усякае глупства... Вам, пэўна, са мною зусім не цікава...

— Не-не, што вы, я таксама вельмі люблю вось такі раптоўны, нечаканы зімовы дождж... Ведаеце, ён неяк разнявольвае, прымушае забыцца на ўсе нягоды, ён быццам вяртае ў дзяцінства... Робіць шчаслівым... Сам не заўважыўшы як, Алесь пачаў гаварыць пра самае патаемнае, пра тое, што не тое што казаць, пісаць не адважваўся.

— Каб адчуваць сябе шчаслівым, трэба заўжды памятаць, што твая няўдача для кагосьці можа стацца адзіным раптоўным шанцам... — сказала яна. — І цешыцца разам з тым, можа, вечным для цябе незнаёмцам.

— Як гэта? Я не зусім вас разумею...

— Ну вось сёння... Гэтае ліловае кола. Тое, што яно сарвалася — для мяне катастрофа... Як кажуць — першы званок. І мяне наўрад ці калі яшчэ запросяць у ваш горад... І ў нашым цырку мне хутчэй за ўсё вось-вось прапануюць вучыць маладых. А для вас з гэтага ліловага кола, як і з гэтага наяве даволі брыдкага, недарэчнага зімою дажджу сёння пачаўся чароўны вечар. Ці не так?

— Так... Са мною там, у цырку, адбылося нешта дзіўнае... Мне здалося, што я рашыўся прайсці па гужу... І нават зайшоў у клетку да тыграў... Ды што там, я паклаў сваю галаву ў пашчу... У пашчу тыгра ці тыгрыцы...

— Тыгра, тыгра.. Дрэсіроўшчыкі звычайна працуюць толькі з аднаполымі драпежнікамі... Хіба ж тыгрыца дазволіла б, каб на яе вачах так прыніжалі, так знушчаліся з ейнага абаронцы? Пасля арэны звяроў не бяруць нават у звярынец. Яны не ўмеюць размнажацца. Нават сланы практычна страчваюць свой галоўны інстынкт. А яшчэ ўлічыце, іх перад кожным выступленнем і пасля падпойваюць... Каб зняць напружанне і агрэсіўнасць.

— Чым?

— Гарэлкаю. Сланам па бутэльцы. Тыграм крыху меней...

— Што ж, людзей таксама, пэўна, будзе вельмі лёгка дрэсіраваць, калі разбурыць іхнія сем'і ды падпаіць...

— Што і даводзіць уся нашая гісторыя. Толькі ў людзей, у адрозненне ад звяроў, ёсць душа. А яна пераадольвае ўсё. І прастору, і час. І не паддаецца ніякай дрэсуры. Рабы, пэўна, усё ж па-свойму могуць быць шчаслівымі, а тыраны — ніколі... Тыраны не толькі чужыя душы, але і сваю засмечваюць страхам і нянавісцю, пазбаўляюць яе крылаў. А хіба можа чалавек з бяскрылаю душою быць шчаслівым, тварыць свой лёс, радавацца не толькі сваім, але і чужым удачам? Немагчыма ўсіх і ўсё падначаліць сабе, прымусіць жыць па адзіных правілах. Вунь, нават кола сёння ў мяне сарвалася. Што ж казаць пра звяроў ці тым больш людзей...

— Але ж сям'я — гэта таксама дрэсура...

— Ды што вы... Што вы... Сям'я — гэта дождж, гэта снег, гэта, калі хочаце, той самы магічны крышталь, ці паветраны шарык... Іх немагчыма ўтрымаць, імі можна толькі цешыцца. А тыраны... Яны заўжды зашпіленыя на ўсе гузікі. Таму ў іх і не бывае шчаслівых сем'яў...

— Мне так шмат хочацца вам сказаць...

— А я, на жаль, ужо дапіла свой бальзам. Я спяшаюся. Даруйце... І дзякуй вам за тое, што злавілі і прынеслі маё самае любімае, ліловае кола... І не трэба мяне праводзіць. Я ж так. А вам яшчэ апранацца...

Алесь усё ж давёў яе да службовага ўвахода, і нават схіліўся, пацалаваў, пацісну ў ейную выганчаную лёгкую руку... І толькі на парозе кавярні адчуў, што змок, змерз, што яго ўсяго праціналоць дрыжыкі... А на століку — пустая празрыстая чарачка і яшчэ адна — ягоная, з аксамітнаю кропляй бальзаму... Трэба было бегчы. Куды? У цырк? На вакзал?.. Трэба было ўзяць у яе адрас, ці хаця б тэлефон... Але для гэтага ён мусіў трымаць у руцэ тое бліскучае ліловае кола ці хаця б паветраны шарык...



*"Гаральд і Мод"*

нацыянальны характар", "лірычныя народныя песні, абрады", "народны гумар". У 90-я гады сітуацыя змянілася: па-ранейшаму не згасла цікавасць да беларускай драматургіі, высока ацэньваюцца "Тутэйшыя", "Ідылія", "Страсці па Аўдзею", "Ажаніцца — не журыцца"; рабочыя робяцца пастаяннымі наведнікамі тэатра. Трэба адзначыць і іх цікавасць да асобных спектакляў (гістарычных драм тэатра-лабараторыі нацыянальнай драматургіі "Вольная сцэна"; імі вылучаецца таксама пастаноўка "Раскіданага гнязда" Янкі Купалы ў тэатры "Абзац", а спектакль прайшоў усяго чатыры разы!). На думку рэспандэнтаў, рэпертуар купалаўцаў блага абнаўляецца, бракуе беларускай класікі ў сучасным прачытанні, нацыянальных гістарычных п'ес, беларускага вадэвілю. Акцёрскі склад тэатра высока ацэньваецца за прафесіяналізм, вылучаюць ігру С.Станюты, Г.Гарбука, М.Захарэвіч, Г.Аўсяннікава, А.Лабуша, В.Рэдзькі, З.Белахвосцік, В.Манаева, В.Кін-Камінская, А.Рынковіч.

Цікавы той факт, што ў тэатр ідуць, каб "адчуць сябе беларусамі", "паслухаць нашу родную мову", "адчуць годнасць, пачуццё гонару за нашу культуру", "пабачыць істотныя рысы характару беларуса". "Менавіта тут, у зале, я адчуваю сябе беларусам", — адказаў адзін з гледачоў у анкеце. Увесь гэты прычынны шэраг характэрны не толькі для рабочай аўдыторыі, а практычна для ўсіх катэгорый гледачоў! Ёсць пільная патрэба ў нацыянальнай і культурнай самаактуалізацыі, што раней у даследаваннях не фіксавалася.

Служачыя ў структуры тэатральнай аўдыторыі займаюць значнае месца — 48,2 працэнта складу глядзельнай залы. Кожны другі апытаны рэспандэнт сферы прамысловасці, навукі, асветы, аховы здароўя, культуры з'яўляецца пастаянным наведнікам Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Менавіта з гэтых груп гледачоў фармавалася "ядро" тэатральнай аўдыторыі. Але прыкметна скарацілася колькасць гэтых глядацкіх груп у рэальнай аўдыторыі, заўважна зняпала іхняя тэатральная актыўнасць. Паводле нашага апошняга доследу (1996 г.) прадстаўніцтва гледачоў сферы прамысловасці, культуры і мастацтва скарацілася ў два разы, навукі і аховы здароўя — у тры разы (у параўнанні з сярэдзінай 70-х гадоў). У групе прадстаўнікоў асветы фіксаваўся адток ад тэатра ў 80-я гады, цяпер "асветнікі" трывала замацаваліся ў зале. Парадаксальнасць сітуацыі ў тым, што яны па-ранейшаму з'яўляюцца пастаяннымі наведнікамі тэатра, але арыентуюцца толькі на асобныя пастаноўкі. Аб'ём асвоенага сённяшняга рэпертуару невысокі. Арыентацыя на асобныя спектаклі ўскосна сведчыць пра незадаволенасць рэпертуарам. Увагу гледачоў усіх катэгорый прыцягваюць адны і тыя ж пастаноўкі: "Ідылія", "Тутэйшыя", "Страсці па Аўдзею", "Памінальная малітва", "Гаральд і Мод" ("ігра С.Станюты") ды "Паўлінка" з "Ажаніцца — не журыцца" — гэтыя спектаклі ідуць даўно і ўсе іх бачылі, усе разглядаюцца як "візітоўкі" тэатра).

Элітарныя гледачы адзначаюць, што ў тэатра няма эстэтычнай канцэпцыі, філасофскага асэнсавання беларускай драматургіі, яе складанай сімволікі, архетыпаў, як няма і адзіных прынцыпаў у рэжысуры, акцёрскай ігры. Глядацкая эліта адзначае няпэўнасць творчай пазіцыі тэатра. Нягледзячы на высокую ацэнку прафесіяналізму акцёраў, гледачы мяркуюць, што творчы патэнцыял акцёрскай трупы раскрыты недастаткова. Паводле апытаных, тэатр слаба арыентуецца на нацыянальную драматургію, бо няма новых пастановак як беларускай класікі, так і сучаснай беларускай драматургіі; 18 працэнтаў рэспандэнтаў лічаць, што рэпертуар слаба абнаўляецца.

Не менш прадстаўнічая група гледачоў — навучэнцы: 33,5 працэнта рэальнай аўдыторыі тэатра. У цэлым у 90-я гады фіксуецца падзенне тэатральнай актыўнасці моладзі. У той жа час палова глядзельнай залы купалаўцаў — моладзь да 30 гадоў. Гэта самая нестабільная аўдыторыя. 32,6 працэнта навучэнцаў прыходзяць у купалаўскі тэатр упершыню. Першае знаёмства з тэатрам запознена: да 16 гадоў упершыню прыходзяць у тэатр 36,3 працэнта апытаных, у 16—20 гадоў — 31,5 працэнта і 25—29 гадоў — 15,8 працэнта рэспанэнтаў. Тэатральная актыўнасць маладзёжнай аўдыторыі невысокая — 36,2 працэнта наведваюць тэатр 1—3 разы на год і радзей і толькі II працэнтаў апытаных характарызуюцца высокай вынаходлівасцю, дамінуючай арыентацыяй на нацыянальны тэатр і высокай тэатральнай актыўнасцю. 14 працэнтаў маладых гледачоў можна аднесці да пастаянных наведнікаў нацыянальнага тэатра. Вабнасць тэатра для моладзі звязана, як і для ўсёй аўдыторыі, з магчымасцю адпачыць, разняволіцца (52 працэнты), другую пазіцыю займае арыентацыя тэатра на нацыянальную культуру (32,7 працэнта), трэцюю — акцёрскі склад (32,2 працэнта), чацвёртую — мова (27,2 працэнта), затым ідзе рэпертуар тэатра і любімыя акцёры. Маладзёжная аўдыторыя вылучае акцёрскую ігру В.Манаева, В.Філатава, З. Белахвосцік, А. Сідаравай, Г. Аўсяннікава, В. Рэдзькі.

Вынікі даследавання дазваляюць зрабіць шэраг істотных папярэдніх абагульненняў, абазначыць абрысы рэальнай мадэлі сённяшняй тэатральнай аўдыторыі.

Перш за ўсё звяртае на сябе ўвагу высокі рэйтынг беларускай мовы і арыентацыі тэатра на нацыянальную культуру — як важных агульнакультурных фактараў прывабнасці тэатра для аўдыторыі. Гэта сведчанне і прынцыпова новай, адкрыта абвешчанай арыентацыі, але і паказчык істотных крызісных з'яў у грамадскім развіцці. Тэатр разглядаецца як адна з ніш захавання мовы і нацыянальнай культуры. Мастацкі пошук калектыву, рэжысёрскія работы, рэпертуар тэатра ў значнай ступені пад увагу не бяруцца або не адпавядае чаканаму. Многія гледачы разглядаюць тэатр як адну з крыніц мастацкай інфармацыі па гісторыі і культуры Беларусі. Фіксуецца значнасць фактараў нацыянальнай і культурнай самаактуалізацыі. Тое, што ў тэатр прыходзяць "паслухаць родную мову", "адчуць сябе беларусам", "зразумець нацыянальную ідэю", "адчуць гонар за сваю культуру, свой народ", "зразумець істотныя рысы характару беларуса", "пабачыць прыгожы вобраз беларуса" і г.д., сведчыць пра адметную патрэбу ўсвядоміць сябе ў гэтым свеце менавіта як прадстаўніка сваёй нацыі. Гледачы адводзяць тэатру значную ролю ў фарміраванні вобраза беларуса, мадэлі беларускай культуры. Уяўляе цікавасць і аргументацыя гледачоў пры вызначэнні рэйтынга купалаўскага тэатра сярод мінскіх тэатраў: "гэты тэатр лепшы, гэта наш тэатр — беларускі", "нібы зрадніўся з ім, добрая ігра акцёраў і паказчык жыцця нашай Беларусі", "таму выбіраю гэты тэатр, бо я беларус", "з-за роднай мовы і ігры акцёраў", "хацеў бы, каб тэатр стаў народным як 30 гадоў таму назад", "хаджу як да старых знаёмых, бо я беларус і гэта мой тэатр", "таму, што я беларус" і да т.п. Пры ўсёй наіўнасці аргументацыі прасочваецца і любоў гледачоў да тэатра, і чаканне ад тэатра дапамогі ва ўсведамленні прыналежнасці да самабытнай культуры, нацыі, свайго месца ў свеце.

У рэальнай нашай сітуацыі, калі ранейшая культурная прастора разбурана, не сфармавана мадэль беларускай культуры, пераважае амерыканізаваная масавая культура, роля тэатра ў далучэнні да нацыянальных каштоўнасцей і культуры неацэнная. Рэпертуарная ж палітыка тэатра ў значнай меры не адпавядае рэальным запатрабаванням гледачоў. Тэатр павінен ведаць сваю аўдыторыю, павышаць яе запатрабаванні ды ўяўляць рэальную сітуацыю, у якую ён уключаны. Тэатр існуе цяпер у гэтай дадзенасці. У пэўны гістарычны адрэзак часу і глядач менавіта такі, якога фармуе час быцця.

**Валянціна ІЎЧАНКА,**
**кандыдат філасофскіх навук**

*Фота В. Стралкоўскага і А. Дзімітрыева.*

МАЙСТЭРНЯ

# Не прафесія, не захапленне



"Цікава, што б вы сказалі пра мае карціны. Яны зусім не падобныя на ўсё, што я здымаю", — выснаваў аператар Уладзімір Васінеўскі з нашага леташняга інтэрв'ю. Магчымасць зірнуць на ягоны жывапіс выпала пры канцы леташняга верасня: кінатэатр "Кастрычнік" ахвяраваў свае фае пад жывапісную выставу Уладзіміра Васінеўскага. А вось магчымасць сказаць... Нават ведаючы, як любіць аператар Васінеўскі "мирискусников"... Нават уяўляючы, якую непрадказальную, якую пакручастую ўладу маюць улюбёныя выяўленчыя матывы творцы над ягонай уласнай творчасцю... Нават уяўляючы пункты мастакоўскіх адлікаў і прафесійную патрабавальнасць Уладзіміра Фаўставіча... Я скарыстала ягоны спосаб існавання ў мастацтве: гранічную адлегласць ад выявы. Нават адцягненасць. Ад выяў. І ад факту першага знаёмства з імі...

Прафесія аператара (такога выбітнага ўзроўню!) вымагае ад носьбіта-творцы кшталціць сябе... ад выявы да выявы. Я неабазнана меркавала, што захапленне жывапісам надае нечаканага аб'ёму, як той казаў, асноўнай прафесіі: хуткаплыннае экраннае мроіва ўраўнаважваецца гразкім алеем і цвёрдым пэндзлем. Так бы мовіць, набывае інакшую вартасць існавання. Пачуццё падмацоўвае інтуіцыя, інтуіцыю пільнуе інтэлект і так далей. Да выніку на палатне. На самай справе "не прафесія, не захапленне, — гэта проста адна з формаў ягонага духоўнага існавання," — падрахаваў мае здагадкі пра жывапіс Уладзіміра Васінеўскага рэжысёр Віктар Шавялевіч. Бадай, як няшмат хто іншы маючы рацыю: колькі разам з Васінеўскім агорана, прымроена ды ўвасоблена...

Аператарскі жывапіс наіўна ўяўляўся мне чымсьці дужа ўжытковым. Скажам, накідам паводле дэкарацыйнага вырашэння чарговай кінастужкі; гэткім подступам да засваення й падпарадкавання сабе кінакарціннай прасторы; намаганнем падпільнаваць, запыніць эстэтычныя няўлоўнасці будучае стужкі: яны ў пэўны момант імкнуць навыперадкі з майстрам. А то і апярэджваюць яго. Падобна, эстэтыка твора неяк адасабляецца ад творцы, вынікае ўсё адно як сама па сабе, але больш — з ласкі мастаковай падсвядомасці як з вымогаў патрэбы або з выслілкаў разліку. Мне здалося, што выявы на палотнах Уладзіміра Васінеўскага неяк пераймаюць французскіх імпрэсіяністаў. Мне ўявілася, што яны нагадваюць дзівосныя, вытанчаныя эскізы Францэскі Ярбусавай да анімацыйных шэдэўраў Нарштэйна. Адлегласць? Наследаванне? Падабенства? Не ў тэхніцы, не ў выбары аб'ектаў, не ў кампазіцыі, не ў каларыце... У пачуццёвасці? У настраёвасці? Таксама — не... Работы Васінеўскага, хутчэй, выяўляюць прадчуванне настрою, само настройванне, падрыхтоўку да адчування... Нічым не магу вытлумачыць імкненне застылай выявы зрабіцца выявою рухомаю! (Хіба тым, што майстра Васінеўскі валодае сакрэтамі рухомае выявы.) Патэнцыяльная энергія, энергія руху (не тая, што зрушвае турбіну, але тая, што сілкуе думку), здаецца, напагатове — вызваліцца з абдымкаў алею ды палатна і... гайданучца арэлі з лёгкім прысвістам, няйначай, каб на неба ўзляцець ("Арэлі"). Альбо зшараваты блакіт поля перакінецца морам, а стагі, адпаведна, выспамі-камяніскамі ("Поле"). Неадольная сіла звядзе, злучыць сцежкі ля крыніцы-мроіва, крыніцы-міражу ("Крыніца"). Мройныя, ірэальныя, дзіўна расплывістыя ствалы дрэў выявяць на сваім тле трохкутнік дарожнага знаку ("Змярканне"). "Дробны дождж у чэрвені" злучыць хмары з зямлёю, зніце зямную мулкасць і нябесную недасяжнасць, надасць утварэнню шчыльнасці, рэальнасці, сапраўднасці. Але памяняем месца ля палатна, месца, з якога ўсё гэта ўбачылася, і пералічаныя прыкметы перакінуцца сваімі супрацьлегласцямі: мроіва няпэўнасці ізноў ніцье вызначанае з няпэўным, мулкае з прывідным... "Самая кароткая ноч" мае ў перспектыве не адзін толькі — самы доўгі — дзень. Перадусім — непаўторнасць кароткага часу, калі ящчэ не сонца, але сам сонечны рух вызначае хуткую перамену, звястуе яе, хуткую, найхутчэйшую... Чым больш хуткую, чым больш няўлоўную, тым больш вабную для мастака Васінеўскага. Аператар Васінеўскі гэтыя імгненні натуе на свае стужкі; самы рух, самы працэс гэтага адмысловага натавання называецца нейтральным словам "фільмаванне". Але як фільмаваць, скажам, бег — тых непаўторнасцяў, з якіх утвораны час? У прынцыпе на стужку — можна. Але "Бег" не апаратара — мастака Васінеўскага выяўляецца... праз рух коней па мосце, шчыльна ахутаным туманам. Коні проста спускаюцца з неба. Туману і нейкаму бэжаватаму пылу дадзены найвышэйшы загад прыкрыць гэтую боскую прaвaу, і мост, на якім з'яўляюцца коні, толькі выпадкова (калі каму закарціць праверыць) будзе мець дадатковыя апоры і выхад на супрацьлеглы бераг. "Бег" — мая ўлюбёная карціна ў Васінеўскага-мастака. Рыхтык як улюбёнымі сталіся выявы экраннае карціны "Пастка для зубра". Шукала перагуканняў, перайманняў, наследаванняў экранным краявідам ды відокам архітэктуры, пакуль не патрапіла вызначыць іх па сутнасці: прадчуванне настрою, настройванне, самы акт стварэння — плыткі, дрогкі, не застылы, не прыклеены да палатна, не прыцвічаны да сцяны!

У студню з самага неба апускаецца вядро. Работа "Сузіранне" змяшчае тэатральную таемнасць: чалавечак у крэсле (першы і адзіны рад) сузірае з'явішча вядра над студняй; кот пад крэслам... Жарт аператара? Маўляў, змяні пазіцыю, адшукай кропку і адкрый рэальнасць, але... навошта? Вядро і студня пададзены пры азярцы або рачулцы. Відаць супрацьлеглы бераг. Расліннасць, як мае быць, атачае берагі... Сузіранне вычэрпнасці й невычэрпнасці? Канцовасці й бясконцасці? Абмежаванага й бязмежнага?..

...А чалавечак сядзіць і ножкі звесіў. У першым радзе. Адзін. Адзіны.

Жывапіс Уладзіміра Фаўставіча я вызначыла для сябе запрашэннем да настрою. Нагодай да адчування. Падставаю для пачуцця. Філасофія бясконцых пераўтварэнняў, распадання й нітавання, няўстойлівасці ды перацякання ўласцівая гэтым работам зусім як нашаму існаванню. З ягонай мройнай часовасці майстра Васінеўскі патрапіў утварыць рухавую адвечнасць...

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

*На здымку: Уладзімір Васінеўскі на здымачнай пляцоўцы разам з рэжысёрам Віктарам Шавялевічам.*

ЛiМ ЧАСАПІС

## Ідучы ад пражытага

Пятру ЛІСІЦЫНУ — 70

**Пётр Лісіцын родам са старажытнага Полацка. У гады Вялікай Айчыннай вайны прайшоў слаўны баявы шлях, пачаўшы яго ў пятнаццацігадовым узросце партызанскім разведчыкам і падрыўніком. Быў паранены. У 1950 годзе здаў экстэрнам экзамен за сярэднюю школу і паступіў у Рыжскі філіял Усесаюзнага юрыдычнага інстытута, а праз два гады перавёўся ў Латвійскі дзяржаўны універсітэт, які скончыў у 1955 годзе. Працаваў на розных пасадах, з 1968 года жыў у Гродне. У 1978—1985 гадах быў упаўнаважаным Усесаюзнага агенцтва па аўтарскіх правах па Гродзенскай вобласці. Цяпер жыве ў Мінску.**

**З першымі апавяданнямі П. Лісіцын выступіў у 1962 годзе ў газеце Прыбалтыйскай ваеннай акругі "За Родину". Аўтар кніг прозы "Февральский наст" (1978), "Росныя травы" (Хабараўск, 1981), "Трое разных" (1985)... Публікуецца ў часопісе "Нёман". Для твораў П. Лісіцына характэрна добрае веданне жыцця, у тым ліку падзей мінулай вайны.**

**Віншуем Пятра Сцяпанавіча з 70-годдзем! Зычым яму ўсяго найлепшага!**

## Прэм'ера спектакля



**У Дзяржаўным тэатры юнага гледача адбылася прэм'ера спектакля "Ніхто не паверыць" паводле аповесці фінскага пісьменніка Яна Экхольма. Паставіў спектакль рэжысёр Юрый Вута, афарміла мастак Ларыса Рулёва, мастацкі кіраўнік — Андрэй Андросік.**

**Спектакль у філасофскім плане, даступным юнаму гледачу, расказвае аб усёперамагаючай сіле кахання, перамогі дабра над злом.**

*На здымку: сцэна са спектакля. Бацька Ларсан — заслужаны артыст Беларусі Леанід Улашчанка, Лабан — артыст Алег Сідорчык.*

*Фота Мікалая ПЯТРОВА, БЕЛТА*

## "Усе мы родам з дзяцінства"



**Абласны адборачны тур III Рэспубліканскага тэлевізійнага фестывалю "Усе мы родам з дзяцінства" прайшоў у Віцебску.**

*На здымку: удзельніца фестывалю, юная спявачка з Г. Дубройна, дзесяцікласніца Алеся Мензурэнка.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

ВІНШУЕМ!

# Журналіст і паэт

## Валерыю ГРЫШАНОВІЧУ — 50

Валерый Грышановіч родам з г.п. Халопенічы Крупскага раёна. У 1973 годзе скончыў факультэт журналістыкі Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта імя М. Ламаносава. Працаваў у рэдакцыях крупскай, клецкай раённых газет. У 1969 годзе быў выбраны сакратаром Крупскага райкама камсамола. З 1972 па 1973 год працаваў у Мінскім абкаме камсамола, служыў у арміі (1973—1974). Быў інструктарам, намеснікам загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі ЦК ЛКСМБ. У 1977—1979 гадах В. Грышановіч — намеснік рэдактара, рэдактар газеты "Знамя юности". У 1979—1983 — загадчык аддзела газеты "Советская Белоруссия", затым — інструктар сектара газет і часопісаў ЦК КПБ. Нейкі час працаваў дырэктарам выдавецтва "Мастацкая літаратура".

З першымі вершамі ў рэспубліканскім друку выступіў у 1968 годзе. Аўтар кнігі паэзіі "Стронций в капле росы" (1990), адзін з аўтараў зборніка нарысаў "Дальние дороги" (1983). Разам з М. Кацюшэнкам напісаў сцэнарый дакументальнага фільма "Хроніка знаходжання на зямлі" (1981), у якім расказваецца пра лётчыка-касманаўта П. Клімука.

З днём нараджэння, шаноўны Валерый Мікалаевіч! Вялікіх поспехаў Вам у жыцці і творчасці!



# "Нацыяналка"

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

Расійскай кніжнай палаты. Набылі мы каталог бібліятэкі Кангрэса ЗША, якая камплектуецца адмыслова, адлюстроўваючы сусветны паток літаратуры. Каталогі гэтыя — сідзіромы, электронныя дыскеты, на якіх запісана інфармацыя.

Трымаем і актуалізуем мы і юрыдычную базу. Акрамя таго, мы не абмяжоўваемся камплектаваннем кніг, часопісаў — мы пастаянна папаўняем фонды грамзапісаў, кампактдыскаў (у першую чаргу — класічнай музыкі), у нас шмат выяўленчай прадукцыі — у выглядзе альбомаў, ілюстрацый, паштовак. І ўсё гэта, як вы заўважылі, на абмежаваных і непрыстасаваных плошчах. І ўсё гэта — за невялікую, можна сказаць, мізэрную зарплату. Працуе ў нас каля паўтысячы чалавек, з іх добрыя тры сотні — бібліятэкары, людзі высокай прафесійнай падрыхтоўкі, сучасныя спецыялісты, якія на "ты" з навейшай камп'ютэрнай тэхнікай. А сярэдняя зарплата па бібліятэцы — каля 700 тысяч рублёў. Пра гэта і гаварыць ніякавата, сорамна, аднак жа — вось якія лічбы: да апошняга павышэння заробку наша прыбіральшчыца атрымлівала 201 тысячу рублёў, гардэробшчыца — 197 тысяч, а супрацоўнікі аддзела гігіены і рэстаўрацыі, якія даводзяць фонды Нацыянальнай бібліятэкі пасля вандальных адносін некаторых нашых чытачоў да нармальнага стану, атрымлівалі трошкі больш за 300 тысяч рублёў, пераплётчык — усяго 390 тысяч. Трагедыя наша сёння ў тым, што нашы высакакласныя спецыялісты, якія ведаюць камп'ютэры, асабліва маладыя, не хочуць працаваць за такія грошы, у такіх умовах, у тых жа кнігасховішчах — зачыненых, пыльных, без сонечнага святла і цяпла.

Ну і ў гэтай сувязі — зноў пра камплектаванне. Часам пытаюцца: колькі вам трэба на камплектаванне? Я адказваю: нацыянальная бібліятэка павінна мець столькі, колькі ёй трэба. Мы правялі адно даследаванне па нацыянальных бібліятэках многіх краін свету, і вось што высветлілася. У параўнанні з бібліятэкамі Вялікабрытаніі, Польшчы, Германіі, бібліятэкай Кангрэса ЗША мы па колькасці новых паступленняў, па аб'ёмах камплектавання фондаў на апошнім месцы, а вось па колькасці чытачоў, кнігавыдач, па колькасці наведванняў — недзе ў сярэдзіне. Прынамсі, не ў канцы. Зусім не ў канцы!..

Думаецца, высновы з гэтага напрошваюцца відавочныя: становішча наша, мякка скажу, незайздроснае. Яно, відома, такое ж незайздроснае паўсюль сёння, асабліва ў сферы, ці ў галіне культуры, адукацыі, мастацтва. Аднак жа ёсць тое, дзе сёння няўкладзены рубель заўтра абернецца тысячнымі выдаткамі. Маю на ўвазе ўсё тыя ж прагалы ў культурна-гістарычнай памяці народа, якія без сённяшняга рубля мы пакінем сваім нашчадкам. Зрэшты, даказваць, што на культуру разумны гаспадар грошай не шкадуе, проста неяк няёмка. Бо атрымліваецца, што ты даказваеш гэта сапраўды неразумнаму гаспадару, марнатраўцу...

Вось такі аповед пачула я ад Галіны Мікалаеўны. Дапоўню яго сціслымі водгукамі, прызнаннямі, заўвагамі чытачоў.

Сяргей **Козінцаў**, студэнт гуманітарна-эканамічнага універсітэта:

— Працую з камп'ютэрам. Тут цудоўная база! Тут можна знайсці літаральна ўсё і на пошук патраціць мізэр часу.

Ігар **Захаранка**, падпалкоўнік:

— Дзевяць год чытаю тут кнігі, часопісы. Іду сюды з прыемнасцю. Людзі — надзвычай уважлівыя, тактоўныя, высокапрафесійныя, даведачны аддзел — выключны, больш поўных фондаў у Беларусі няма, напэўна. Праходжу службу ў Ваеннай акадэміі. Сфера маіх захапленняў — ваенная гісторыя, па спецыяльнасці — картограф. Часам неабходную кнігу шукаю ў пецярбургскай "Салтыкоўцы", у маскоўскай "Ленінцы" (былой, вядома), але па сённяшнім часе туды не наездзішся, таму выручае гэтая, наша, родная. Мы, навукоўцы, проста не ўяўляем, што будзем рабіць, калі яе, не дай Бог, зачыняць. Гэта на смерць падобна!

Аляксандр **Магарын**, інжынер:

— Сюды хаджу ўжо 40 гадоў. З таго часу, як паступіў у інстытут, стаў студэнтам. Цяпер я працую галоўным інжынерам Упраўлення "Электраналадка", праца вымагае новай інфармацыі, выпісваць маскоўскія часопісы не па кішэні, і адзіны паратунак — тут...

Мікола **Ермаловіч**, пісьменнік, гісторык:

— Не магу знайсці слоў, якія б маглі ацаніць значэнне Нацыянальнай бібліятэкі для мяне асабіста. Менавіта дзякуючы ёй, яе фондам мне ўдалося зрабіць свае навуковыя даследаванні. Жывучы ў Маладзечне, я штодзённа, цягам 25-ці гадоў, ездзіў сюды і карыстаўся багацейшымі бібліятэчнымі фондамі. Тут, чытаючы летапісы, хронікі, манаграфіі, я змог больш-менш паглыбіцца ў нашу гісторыю, што дало мне магчымасць перагледзець некаторыя погляды на некаторыя моманты гэтай гісторыі, асабліва на перыяд утварэння Вялікага княства Літоўскага. І ўсё, падкрэслю, дзякуючы таму, што ўсе матэрыялы я знайшоў тут, у гэтай бібліятэцы. Калі б яе не стала — на месяц, два, на паўгода — гэта была б вялізная страта для нашых чытачоў, нашай навукі, для ўсёй інтэлігенцыі. А што да мяне, дык скажу так: бібліятэкары — гэта мае родныя, блізкія людзі. Ведаючы, што ў мяне кепскі зрок, яны заўсёды прыходзяць мне на дапамогу, знойдуць патрэбную кнігу, зробяць усё, што б я ні папрасіў. Дзякуючы ім я напісаў і пішу далей сваю галоўную працу — "Старажытная Беларусь"...





Непамысны настрой, з якім я ішла ў бібліятэку, не пакінуў мяне пасля знаёмства з ёю. Не пакідае ён мяне і цяпер, калі пішу гэтыя радкі. Прыгадваю галоўнага бібліятэкара аддзела беларускай літаратуры Раісу Казючыц і яе заклапочаны, неабыякавы расказ пра своеасаблівасць і фондаў аддзела, і чытачоў, і работы з імі, якая зусім не фармальная, а самая што ні ёсць творчая, асабліва цяпер, калі ідзе аўтаматызаваная апрацоўка фондаў і заадно іх праверка, апісанне старых выданняў, і калі ў выніку нагрузка невымерна ўзрастае, а на зарплаце тое не адбіваецца аніяк... Успамінаю і Грамовіч Іну, загадчыцу сектара газетнай залы, і яе падобную ж заўвагу пра нізкую аплату працы, прытым што колькасць чытачоў і тут за апошнія два гады павялічылася неймаверна — валам навалілі навукоўцы, спецыялісты, студэнты...

Дарэчы, пра гэта самае павелічэнне чытачоў у залах і аддзелах "Нацыяналкі". На першы погляд, пра што гэта сведчыць? Пры нейкіх іншых нашых варунках адказ быў бы адназначны: пра якасцы інтэлектуальны выбух, пра нейкі небывалы інтарэс да кнігі. Да кнігі? Так, да кнігі. Але — да якой кнігі? Да бібліятэчнай. Да бясплатнай бібліятэчнай кнігі. І ў гэтым увесь сакрэт, як спявала Шульжэнка. Збяднелі, катастрафічна збяднелі нашы людзі, і мо найперш тыя самыя навукоўцы, спецыялісты, студэнты, не маюць магчымасці купіць і выпісаць неабходную літаратуру, перыёдыку і, натуральна, шукаюць кампенсацыі (ці паратунку) у бібліятэцы. Значыць, яна тым больш патрэбная нам усім, тым больш неабходнай робіцца яе прысутнасць, альбо існасць.

І не проста прысутнасць, а паўнакроўнае жыццё-функцыянаванне. І таму тым большую трывогу выклікае маючы адбыцца рамонт. Пачынаць капітальны рамонт і вазіць туды-сюды кнігі з канца ў канец горада і неразумна, і небяспечна. Можа, і праўда лепей абысціся касметычным рамонтам, а ўсе магчымыя сродкі кінуць на дапрацоўку праекта і будаўніцтва новага комплексу будынкаў нашай "Нацыяналкі"? Усё ж фонды яе павінны быць у рэшце рэшт у адным месцы, дзе будуць забяспечаны адпаведныя ўмовы ўтрымання і зберажэння кніжных скарбаў нашага народа. Бо — згадаем сённяшні дзень. Сёння частка фондаў размешчана ў будынку колішняга інструментальнага вучылішча на Партызанскім праспекце, раней яна, гэтая частка, зберагалася (гібела!) у Івянцы, а потым — у касцёле Св. Роха, потым — у падвалах опернага тэатра, затым — у падвалах на вуліцах Бабруйскай і Ленінградскай. Дык што: зноў katацца туды-сюды?

Мо ўсё ж будуць пачуты словы аб тым, што фонды Нацыянальнай бібліятэкі краіны — гэта неацэнны здабытак краіны, народны скарб, "падстрахоўка" нашай нацыі на ўсе часы і гістарычныя этапы, што клопат аб гэтым скарбе павінен быць дзяржаўны? Менавіта дзяржаўны і ніякі іншы. Бо толькі дзяржаўны клопат можа быць штодзённы, усеахопны, па-гаспадарску шчодры і надзейны.

Дарэчы, неўзабаве, у верасні, Нацыянальная бібліятэка адзначыць сваё 75-годдзе...

**Марыя МІХАЙЛАВА**

*Фота Генадзя ЖЫНКОВА*

ВАНДРОЎКІ

# Крыжы Случчыны

Весці гаворку аб крыжы, як матэрыялізацыі святога хрысціянскага сімвала ў дрэве, жалезе ці золаце, справа няпростая. Складанасць вынікае не толькі з-за няпоўнага яго вызвалення з атэістычных путаў савецкага часу. Складанасць і ў тым, што ў межах сакральнага тлумачэння сутнасці крыжа існуе разбежка поглядаў у розных хрысціянскіх канфесіях. Напрыклад, пратэстантызм, яшчэ ў XVI стагоддзі адмовіўшы абразы, званы, статуі, па сённяшні дзень прызнае крыж не як атрыбут, а толькі як духоўны сімвал прыналежнасці да хрысціянства. Таму адсутнасць у пратэстантаў крыжа на магілках, перакрыжаваннях дарог, на гістарычных месцах — рэч вельмі звыклая, чаго нельга сказаць аб каталіцкіх і праваслаўных традыцыях як у свеце наогул, так і на Беларусі ў прыватнасці.

К 60-м гадам на беларускіх землях крыж па-за царкоўнай агароджай практычна быў знішчаны. Ды і на могілках ягонае месца ўпэўнена займала ідэалагізаваная пяцікутная зорка ці аляпаватамудрагелістыя "камень". На перакрыжаваннях дарог крыжы былі спілаваны разам з тымі фартушкамі-пярэдніччкамі, якія звычайна павязваліся перад вялікімі рэлігійнымі святамі. Не маючы магчымасці даць агульную характарыстыку адраджэння крыжа на ўсёй Беларусі, можна гэта зрабіць на прыкладзе канкрэтнай мясцовасці.

У пачатку снежня выхадным днём невялікая група навукоўцаў, студэнтаў, мастакоў г. Мінска адправілася на Случчыну з нагоды гадавіны Слуцкага збройнага чыну. Мэтаю было ўскласці кветкі да тых крыжоў, якія ў апошнія гады былі ўстаноўлены на месцах змагарных баёў і фармавання вайсковых адзінак случакоў у лістападзе-снежні 1920 г. па абароне Бацькаўшчыны. У тэрытарыяльных адносінах гэта ладны кавалак Беларусі, які далёка не ўмяшчаецца ў адміністрацыйныя межы Слуцкага раёна.

## СЛУЦК

Праехаўшы па шашы полем-лесам-полем, пры самым уездзе ў Слуцк на "штанах" (так мясцовыя жыхары называюць выезд з горада на Мінск) мы бачым вялікую новабудоўлю з чырвонае цэглы. Тут, на ўскрайку цыганскага парку, апошнія пяць гадоў мясцовыя каталікі, якія не мелі цягам доўгага часу сваёй святыні, узводзяць касцёл св. Антонія (да атэістычнага наступу ён знаходзіўся ў цэнтры горада). Парк жа, а дакладней — звычайная таполевая высадка, вынік залясення і азелянення бязлесных тэрыторый, называецца цыганскім таму, што коні — гэта неад'емны атрыбут вечных вандроўнікаў—знаходзілі сабе выган у таполевым "лесе". Ды і цыганскія сем'і, пачынаючы з сярэдзіны 50-х гадоў, табарна засялялі случкія крэсы.

Вядома, гісторыя Слуцка ("Слуцак" — так яшчэ і цяпер карэнныя случакі называюць яго) — гэта гісторыя хрысціянскага крыжа. Бо і першыя згадкі аб Слуцку (1116г.) напрамую звязаны з хрысціянствам. Тут, як і па ўсёй Беларусі і ў прасторавым, і ў часавым вымярэннях, характэрнай з'яўляецца канфесійная церазпалосіца. У 1852 г. у Слуцку быў ліквідаваны велічны фарны касцёл — адна з першых сакральных бажніц, пабудаваных з цэглы на Беларусі (1410—1432 гг.). З яго матэрыялаў быў узведзены не менш уражлівы Мікалаеўскі праваслаўны сабор. Але і ён перапыніў сваё існаванне пры бальшавіках. У 30-ыя гады было знішчана каля дзесятка праваслаўных цэркваў і капліц, а таксама манастыр у Трайчанах, гістарычным прыгарадзе Слуцка. Сінагогу з цэлай сістэмай малітоўных дамоў напаткаў аналагічны лёс.

Сёння і будаўніцтва касцёла, і асвячэнне месца ў цэнтры горада пад праваслаўны кафедральны храм выклікаюць дваістае ўражанне: магчымасць аднаўлення старажытнай духоўнай і матэрыяльнай традыцыі, самабытнай архітэктуры, але поруч з гэтым узнікае і сумнію: ці не ўзмоцняць яны "свецкі" варыянт дэнацыяналізацыі тутэйшага жыхарства?

Гістарычнае суіснаванне слуцкіх крыжовых (цэркваў, касцёлаў) і бескрыжовых храмаў (кальвінскіх збораў) метафарычна прысутнічала ў складзе ўдзельнікаў паўстання 1920 г. па веравызначальнай прыкмеце: праваслаўныя, католікі, пратэстанты, уніяты.

2 снежня 1996 г. удзельнікам паездкі давялося не па-шляхецку прабівацца да Слуцкага дваранскага сходу, гістарычнай будыніны XVIII стагоддзя, прыступкі і сцены якой памятаюць працу Першага беларускага з'езда Случчыны, палымяныя выступы кіраўнікоў паўстання У. Пракулевіча, А. Сокал-Кутылоўскага... Справа ў тым, што менавіта на гэты дзень прыпала ўшанаванне юбілею савецкага вайскоўца, які тут у 30-х гадах камандаваў кавалерыйскай дывізіяй. Правінцыйная пампезнасць свята з аркестрамі, вайскоўцамі, ветэранамі і нават нечым накшталт піянераў ухваляла, абяцала помніць, дзякавала чалавеку, "які выйграў вайну". А зусім побач (ускладаючы кветкі, гаворачы кароткія прамовы, прымацоўваючы сімвалічную памятную дошку да калоны будынка) адзначалася, што ўстанаўленне крыжа ў памяць тых, хто ў далёкіх ужо 20-х гадах "пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына", чакае свайго часу.

## ВЫЗНА

Падчас неабвешчанай тапанімічнай вайны на Беларусі, якую праводзілі камуністычныя ўлады супроць тутэйшых назваў вясковых і гарадскіх паселішчаў, быў адносны зацішак на фронце гідронімаў: рэчкі, азёры, сажалкі ў асноўным збераглі свае аўтэнтычныя назовы. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова праехаць няпоўныя 30 кіламетраў на поўдзень ад Слуцка на Старобіншчыну (цяпер Салігорскі раён). Менавіта тут мы бачым прыклад двайстасці ў бальшавіцкім падыходзе да тапонімаў і гідронімаў. Толькі дзякуючы такой "непаслядоўнасці" зберагласця назва рэчкі Вызнянкі. А вось мястэчка з гістарычным імем Вызна было пакарана яшчэ ў 1923 г. перайменаваннем яго ў Чырвоную Слабаду — за тое, што тут адбываліся жорсткія баі слуцкіх паўстанцаў з 27-й Омскай дывізіяй Чырвонай Арміі. Перайменавана было таксама, праўда, ужо ў 70-я гады, недалёкае сяло Жываглодавічы ў Першамайск, — там калісьці праходзіла паўстанцкая лінія абароны.

У вызнянскай зямлі навечна засталіся ляжаць не толькі хрысціяне, камісары, нетутэйшыя богазмаганцы, але і паслядоўнікі вучэння Канфуцыя — кітайцы, ашуканыя камуністычнай прапагандай і мабілізаваныя для ўзмацнення бальшавіцкіх войск перад адпраўкай іх з Сібіры ў Беларусь. І вось тут у Вызне мы сустрэліся з рэцыдывам магчымасці трансфармацыі палітычнага атэізму, які панаваў на нашай зямлі, у не менш наступальны, г.зв. праваслаўны атэізм. Справа ў тым, што год назад прадстаўнічая грамада з Мінска, Слуцка, Салігорска і мясцовых жыхароў была ўдзельніцай устаноўкі крыжа ў памяць аб усіх ахвярах, палеглых падчас слуцкага паўстання.

Дазвол на ўстаноўку гэтага хрысціянскага сімвала далі мясцовыя ўлады Чырвонай Слабады. Больш таго, сам Уладыка Філарэт благаславіў на гэтую пачэсную справу бацюшку з Міхайлаўскай царквы Слуцка, які, як і каталіцкі, і ўніяцкі святары, што прыехалі з Мінска, справіў увесь рытуал асвячэння крыжа па-беларуску. Спяваліся рэлігійныя песні, казаліся журботныя словы аб дараванні, спагадзе, цярпімасці, суладдзі. Панавала беларускае слова. Крыж быў устаноўлены непадалёк ад месца будаўніцтва праваслаўнай царквы. Аднак мясцовы святар, які апякуецца над новабудоўляй і вядзе душпастарскую працу сярод месчачкоўага люду, разгледзеўся, што "это не русский крест". Гэта значыць, што на крыжы адсутнічае касавіна, характэрная для аднаго з варыянтаў крыжа ў праваслаўі. Ці не адсутнасць "касавіны" і наяўнасць беларускага тэксту на ўстаноўленым крыжы сталі прычынай яго тайнага дэмантажу напярэдадні праваслаўных каляд 1996 г.? Пасля таго, як крыж быў узноўлены на сваім месцы, ён быў паўторна пабураны.

Ля месца, дзе стаяў крыж, былі пакладзены кветкі, узгаданы ўсе ахвяры палітычных завірух незалежна ад прызнання імі крыжа з "касавінай" ці без яе. Адначасова падумалася: мабыць, ідэалагічны сэнс слова "чырвоны" прысутнічае не толькі ў свецкім яго разуменні...

## СЕМЕЖАВА

Колішняе мястэчка, а цяпер звычайнае вялікае калгаснае сяло знаходзіцца ў Капыльскім раёне, за 30 кіламетраў ад Вызны і ад Слуцка. Як сведчаць архіўныя звесткі, яно мае чатырохсотгадовую гісторыю. Гэтае мястэчка ўвайшло ў гісторыю слуцкага паўстання не толькі баямі, але і тым, што тут размяшчаўся штаб слуцкіх паўстанцаў, які каардынаваў баявыя аперацыі ў Капылі, Лютавічах, Цімкавічах, Морачы, Дошкаве.

У мясцовай царкве, ператворанай бальшавікамі ў вязніцу, шмат хто з паўстанцаў знайшоў свой апошні прытулак. Царква пазней таксама была разбурана. Цяпер ад яе засталася толькі частка падземных сутарэнняў. Будуючы ў сярэдзіне 50-х гадоў школу, разам з пяском для адсыпкі дарогі вывезлі рэшткі касцей слуцкіх змагароў. Цяпер побач з ужо апусцелай будынінай школы (новая ўзведзена ў іншым месцы) стаіць на царкоўным котлішчы драўляны крыж з надпісам "Змагарам за незалежнасць Беларусі". Прымацаваны мясцовымі жыхарамі невялічкі абраз на ім сведчыць, што крыж выконвае сваю функцыю, злучаючы смутак аб памерлых з надзеяй на будучыню.

## ГРОЗАЎ

Праехаўшы яшчэ 30 кіламетраў праз Капыль і Цімкавічы, трапляем у Грозаў. Менавіта так называюць яго тутэйшыя людзі, не прызнаючы зрусіфікаванага "Грозава". Непадалёк знаходзяцца вёскі Клешаў (Клешава) і Храноў. З назовам апошняй звязана амаль анекдатычная гісторыя. Справа ў тым, што мясцовы цагельны завод, які працаваў тут пасля вайны, своеасаблівa маркіраваў сваю прадукцыю: кароткім словам "Хреново". І цяпер яшчэ, разбіраючы старыя печы ў ваколіцах Случчыны, можна сустрэць загартаваныя цагліны з такім вось каланіяльна-лінгвістычным перлам.

Грозаў з'яўляецца тыповым мястэчкам на Беларусі. Крамы-мураванкі XIX ст. у цэнтры. Знявечаны будынак касцёла, які ў XVIII ст. быў перароблены расійскай адміністрацыяй у праваслаўную царкву, а затым саветамі прыстасаваны пад калгасны клуб і праўленне калгаса. Занядбалы і закінуты помнік першай паловы XIX ст. Грозаўскі палац (палац Хрушчыка). Менавіта ў ім ішоў запіс жыхароў мястэчка і навакольных вёсак у другі Грозаўскі полк слуцкіх ваяроў.

У 1994 г. у самым цэнтры мястэчка, каля будынка колішняга касцёла-царквы-клуба, быў устаноўлены і асвечаны крыж у гонар слаўных падзей восені 1920 г. Праз год насупраць быў адкрыты мясцовы піўны гандэлік з прэтэнзійна-сталічным назовам "бар", з якога час ад часу выходзяць купкі падхарошаных мясцовых дзецюкоў, а таксама прыехаўшых "на дзярэўню" працаўнікоў мінскіх канвеераў. Разамлеласць іх постацяў вельмі вытлумачальная, як і размытасць іх поглядаў на гісторыю сваёй "малой" Радзімы...

**Мікола АНЦЫПОВІЧ**



# Ратавальнік...

Марыя Хілько жыве ў Докшыцкім раёне каля самага возера Медзазол.

Крыж-капліцка, які з даўніх часоў стаіць на адным з прыазёрных курганоў, дзякуючы Марыі, не забыты. На ім заўсёды новы фартушок з вышытым крыжыкам. Марыя Хілько робіць гэта ад часоў вайны, калі засталася жывая пасля карных фашысцоўскіх аблаў. Яна "дзякуе Богу за тое, што ў самыя цяжкія хвіліны ён выратаваў яе".

Доўгі час рэлігія была ў апале, і Марыя патаемна, схаваўшы ад людскіх вачэй, насіла свае вышыванкі на курган. Цяпер настаў яе час.

**Анатоль КЛЯШЧУК**

*Фота аўтара*





най Царквой у Польшчы, падпарадкаваўшы яе сваім інтарэсам. Нават набажэнствы ў ёй вяліся пераважна на польскай мове. Надзея беларусаў займець сваю аўтакефальную праваслаўную царкву і тут правалілася. Калі раней праваслаўе вяло лінію на русіфікацыю беларускага народа, дык цяпер — на паланізацыю. Такога яшчэ не здаралася ў гісторыі Праваслаўнай Царквы на Беларусі.

Цяга нацыянальна свядомых праваслаўных святароў, свецкай інтэлігенцыі да беларускасці не магла не праявіць сябе падчас нямецкай акупацыі ў гады Другой сусветнай вайны, калі ў выніку вызвалення з-пад апекі і жорсткага кантролю Маскоўскай патрыярхіі стварылася магчымасць ладзіць рэлігійнае жыццё незалежна і самастойна, калі зноў у пэўнай часткі людзей узнікла, праўда, вельмі хісткая, надзея на дасягненне дзяржаўнага суверэнітэту, зразумела, вельмі абмежаванага. Даволі хутка было сфармавана ўласнае царкоўнае кіраўніцтва на Беларусі. Спачатку гэта была мітрапаліцкая ўправа, затым — Сінод, які ўзначаліў мітрапаліт Панцеляймон (П.Ражноўскі). У шэрагу месцаў удалося падабраць для кіравання епархіямі вельмі адданых беларускай справе епіскапаў.

Добра памятаючы, якія адмоўныя наступствы для Беларусі мела падначаленасць яе Праваслаўнай Царквы Найсвяцейшаму Сіноду, а пазней Маскоўскай патрыярхіі, цяпер высокія духоўныя асобы гэтай хрысціянскай канфесіі ўсяляк імкнуліся да поўнай незалежнасці. Дасягнуць яе меркавалася праз заснаванне Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Доўга і старанна рыхтаваліся да прыняцця такога акта, што павінна было адбыцца на спецыяльна скліканым Саборы. Быць выбранымі на яго маглі толькі праваслаўныя рэлігійныя асобы беларускай нацыянальнасці. Такі крок можна цалкам апраўдаць, бо за ўвесь папярэдні перыяд Руская праваслаўная царква заслала ў наш край нямала святароў рускай нацыянальнасці, большасць з якіх наўрад ці падтрымала б ідэю аўтакефальнай праваслаўнай царквы на Беларусі.

Сабор адбыўся ў Мітрапалітальнай Праабражэнскай царкве ў Мінску. Сваё першае пасяджэнне Усебеларускі Праваслаўны Сабор правёў 30 жніўня 1942 года. Перад гэтым адбылося ўрачыстае богаслужэнне. У пасяджэннях Сабора з правам вырашальнага голасу ўдзельнічалі ад духавенства 36 чалавек, у тым ліку заступнік Мітрапаліта ўсяе Беларусі архіепіскап Магілёўскі і Мсціслаўскі Філафей, епіскап Віцебскі і Полацкі Афанасій, епіскап смаленскі Сцяпан, архімандрыт Жыровіцкага манастыра Серафім, выбраныя прадстаўнікі ад епархіяў Мінскай, Наваградска-Баранавіцкай і Смаленскай, а таксама ад свецкіх устаноў і арганізацый 39 асобаў. З дарадчым голасам, апрача Перадсаборнай Камісіі, прымалі ўдзел яшчэ 8 чалавек. Прысутнічалі таксама шматлікія госці.

Асноўныя даклады былі заслуханы на наступны дзень пасля склікання Усебеларускага Праваслаўнага Сабора. З іх найбольш важнае значэнне меў рэферат протаіерэя Язэпа Балая "Царкоўна-кананічныя асновы аўтакефаліі". Аўтар грунтоўна раскрыў формы аўтакефальнага царкоўнага жыцця, пераканаўча паказаў наяўнасць на Беларусі ўсіх неабходных умоў для ўвя-дзення аўтакефаліі: "Мы праваслаўныя Беларусы, — заяўлялася ў рэфераце, — як нацыя, ад веку жывём на сваёй бацькаўшчыне Беларусі, якая сягоння з'яўляецца асобным палітычным арганізмам у сям'і народаў Новай Еўропы; і гэта дае нам права на агалошанне аўтакефаліі". У рэфераце прапаноўвалася Сабору звярнуцца "з просьбай да Галоваў усіх Аўтакефальных Праваслаўных Цэркваў аб прыняцці ў сваю сям'ю Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы як раўнапраўнай сястры".

Сваю працу Сабор закончыў 2 верасня 1942 г. У канцы была прынята пастанова аб накіраванні лістоў Кіраўнікам Аўтакефальных Цэркваў — Румынскаму і Сербскаму патрыярхам, Балгарскай Аўтакефальнай Царквы, Грэцкай Царквы, Аўтакефальнай Царквы Генералгубернатарства (уваходзілі далучаныя ў 1939 г. да Германіі землі Польшчы) з просьбай прыняць Беларускую Праваслаўную Аўтакефальную Царкву як родную сястру ў сям'ю Праваслаўных Цэркваў. Падчас заканчэння працы Сабора прыбылі прывітаць і выказаць яму найлепшыя пажаданні беларускія католікі Язэп Найдзюк, Антон Шукелайць і Ст. Васюковіч. У прынятых Усебеларускім Праваслаўным Саборам пастановах сцвярджалася, "што: а) пры царскай Расіі Праваслаўная Царква Беларусі страціла сваё рэлігійнае аблічча, сталася правадніком царскае палітыкі і прыладай русіфікацыі беларускага народа; б) палякі ператварылі царкву Беларусі ў інструмент апалячвання; в) бальшавікі поўнасцю знішчылі рэлігійнае жыццё і паўстаючую Аўтакефальную Беларускую Царкву (у 1927 г. меркавалася склікаць Праваслаўны Сабор. — **Л. Л.**)... г) цяпер Беларусь, вызваленая ад чужанацыянальных варожых Беларускаму Праваслаўю заграбнікаў, атрымаўшы вольнасць рэлігійнага жыцця, засноўвае вольную і незалежную Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву. Бо толькі аўтакефальная, незалежная царква не будзе прыладдзем чужых імкненняў і поўнасцю адбірае падставы ад умяшання чужынцаў у нашае жыццё, якія праз царкву хацелі б і цяпер праводзіць сваю шкодную беларусам палітыку". Фармальна ж абвясціць Беларускую Праваслаўную Царкву аўтакефальнай вырашылі пасля заканчэння вайны. Ад гэтага часу Праваслаўная Царква Беларусі пачала кіравацца асобным, апрацаваным і прынятым Саборам статутам, мела свой Свяшчэнны Сінод. Уся тэрыторыя Беларусі падзялілася на восем епархій: Мінская (мітрапаліцкая), Брэсцкая, Віцебская, Гомельская, Гродзенская, Магілёўская, Наваградская, Палеская. Як бачым, у Беларускую Праваслаўную Царкву ўваходзілі і тэрыторыі, якія не належалі да юрысдыкцыі Беларускага генеральнага камісарыята. Такі падыход трэба прызнаць вельмі правільным, бо дазваляў царкве праводзіць адзіную рэлігійную палітыку амаль на ўсёй гістарычнай тэрыторыі беларусаў. Узначаліць Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву даверылі мітрапаліту Панцеляймону, які вызначаўся дастаткова высокім узроўнем тэарэтычных ведаў, меў багатую прафесійную практыку служэння Богу. Аднак стварэнне БАПЦ нельга аднесці ў заслугу мітрапаліту Панцеляймону. Ён хутчэй за ўсё проста выканаў волю духоўных асоб больш нізкага рангу, але з належнай, больш высокай, чым у яго, нацыянальнай самасвядомасцю. Гэтай жа якасцю мітрапаліт Панцеляймон, былы афіцэр царскай арміі, не ўладаў, бо ў першыя ж гады эміграцыі ён гэтак лёгка не пайшоў бы на скасаванне БАПЦ.

Несумненна, і сярод тых, хто ўдзельнічаў у стварэнні Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, было нямала асоб, якія добра ведалі, якое гэта магло мець лёсавызначальнае значэнне для роднага краю. З поўнай падставай тут можна назваць Мікалая Лапіцкага, які ў 1935 г. атрымаў ступень магістра багаслоўя за працу "Праваслаўе ў Вялікім княстве Літоўскім за часоў панавання Уладзіслава Ягайлы". З 1942 г. ён быў на службе ў Мінскай мітрапалітальнай управе. Такога чалавека і палічылі патрэбным паклікаць на працу ў Перадсаборную камісію, а затым і запрасіць на Царкоўны Сабор, дзе вырашалася пытанне аўтакефальнасці праваслаўя на Беларусі. Як толькі маглі, дапамагалі стварэнню незалежнай Беларускай Праваслаўнай Царквы прагрэсіўныя колы інтэлігенцыі, чаму не пярэчылі ваенныя і цывільныя акупацыйныя ўлады.

Вышэйапісаная падзея ў царкоўна-рэлігійным жыцці не магла застацца незаўважанай. Яна прыцягнула да сябе ўвагу. Вось як апісвае той час сведка падзей у акупаванай Беларусі Ян Пятроўскі: "Царкоўныя арганізацыі, асабліва на Усходзе, дзякуючы скліканню Сінода Праваслаўнае беларускае царквы, актывізаваліся на ўсіх занятых абшарах. Гэтаксама і беларускія неапратэстанты, каторыя раней былі аслоненыя расійскасцю, дэманстравалі сваю беларускасць".

І ўсё ж поўнай і працяглай згоды ўнутры праваслаўнага епіскапата Беларусі не ўсталёвалася. Такое лёгка зразумець, бо ў яго і раней і цяпер уваходзілі асобы з прарускай пазіцыяй, якія добра ведалі, як Маскоўская патрыярхія ставілася да ідэі аўтакефальнасці. Магчыма, асобы такой арыентацыі і змаглі так паўплываць на мітрапаліта Панцеляймона, што ён не паслаў пратаколы Сабора і ліст да Канстанцінопальскага патрыярха на апрабацыю і благаславенне.

Рэлігійна-царкоўным становішчам на Беларусі цікавіліся дзяржаўныя і грамадскія дзеячы, што працавалі ў створаных акупантамі ўстановах і службах. Іх хвалявала павольнае і непаслядоўнае ўвядзенне беларускай мовы ў богаслужэнне і рэлігійнае навучанне. Тут царква істотна адставала ад тых дасягненняў, што меліся ў свецкіх установах асветы і культуры. Але галоўнае, трэба прызнаць, што беларусізацыя царкоўна-рэлігійнага жыцця ўсё ж пачалася і годам раней ці пазней яно адчула б пад сабой нацыянальны грунт. Не дало гэтаму збыцца вызваленне Беларусі ад нямецкіх захопнікаў, разам з якімі падаліся на захад і амаль усе асноўныя духоўныя асобы Праваслаўнай Царквы.

*(Працяг будзе)*

БАЛЕТ

# Белы лебедзь Святланы Гарбуновай

Пра Святлану Гарбунову напісана пакуль мала. Але — пішуць! Бо немагчыма не звярнуць увагу на артыстку рэдкага таленту, якой, здавалася б, сам бог загадаў танцаваць.



Далучэнне да тэатра — гэта заўсёды таямніца... Бацькі Святланы і ўявіць не маглі, што жыццё іх першага дзіцяці будзе цесна звязана з тэатрам, бо ў іх родзе ніколі не было артыстаў. З чаго ж усё пачалося? Упершыню радасць і прыцягальную сілу мастацтва дзяўчынка адчула на занятках у самадзейным калектыве. Але грунтоўнасці ў тых занятках не было: бацька — вайсковец, сям'і часта даводзілася мяняць месца жыхарства. Калі прыехалі ў Мінск, Света цвёрда вырашыла прадоўжыць сваю танцавальную "кар'еру". Бацькі не пярэчылі ейнаму жаданню, прывялі дачку ў Беларускае харэаграфічнае вучылішча, прычым адразу ў трэці клас. Можна ўявіць, як Святлане было цяжка, але педагог па класічным танцы Э. Прохарава, якая заўсёды цаніла вучняў не за прыродныя дадзеныя, а за працавітасць і мэтанакіраванасць, падтрымала імкненне дзяўчынкі "дагнаць" клас.

Потым некалькіх дзяўчынак залічылі на стажыроўку ў ДАВТ. Сярод іх была і Гарбунова. Вопытны педагог-рэпетытар тэатра адразу заўважыла таленавітую вучаніцу: "Малайчына, ружовая кофтачка", — пахваліла яна незнаёмую ёй тады танклявую дзяўчынку, углядаючыся ў яе старанны танец і адухоўлены твар. І адметна, што яшчэ вучаніцай будучая балерына была занятая ва ўсім рэпертуары тэатра. Гэта дадавала ёй цяжкасцей, бо ў вучылішчы таксама хапала спраў — спецыяльныя і агульнаадукацыйныя дысцыпліны, рэпетыцыі, канцэрты, якія вымагалі шмат сіл і часу. І кожны педагог патрабаваў, патрабаваў, патрабаваў...

На выпускным канцэрце Святлана выконвала найскладанае па-дэ-дэ, якое ўразіла гледачоў, хоць і не здзівіла асаблівай віртуознасцю. Юную выпускніцу заўважыла кіраўніцтва тэатра балета. Яе ўзялі на працу, даручылі адну з галоўных партый, а атрымаць вядучую партыю ў першы ж сезон працы ў тэатры — заўсёды было пачэсна і адказна. Асабліва ў балеце Валянціна Елізар'ева, дзе неабходна не проста танцаваць, а даносіць да гледача глыбокую псіхалагічную задуму пастаноўшчыка, напаўняць ролю сваім уласным светаадчуваннем. Але тая першая роля — Каханая ў спектаклі "Карміна Бурана" на музыку К. Орфа — сталася несумненнай удачай Святланы Гарбуновай. І вось ужо шосты год выходзячы на сцэну ў гэтай ролі, маладая артыстка радуе гледача сваім выкананнем.

Былі ў Святланы і няўдачы. Тут можна згадаць яе першае выкананне партыі Медоры ў балеце "Карсар" А. Адана. Гэтая роля, якая вымагае добрай тэхнічнай падрыхтоўкі, была вывучана за кароткі тэрмін. Маладая салістка тады проста фізічна не магла "пераскочыць цераз сябе".

Але ўжо ў наступнай, грандыёзнай па сваім маштабе рабоце ў "Лебядзіным возеры" П. Чайкоўскага Света паўстала пераможцай. Яе белы лебедзь быў прызнаны лепшым у тэатры! У сувязі з асаблівай складанасцю партыя Адэты-Адыліі была падзелена на дзвюх выканальніц. Адэта — Гарбунова з першага з'яўлення зачаравала залу сваёй кранальнай неабароненасцю, палахлівай недаверлівасцю. Узмахі чуйных трапяткіх рук-крылаў, велічная пастава балерыны нараджалі вобраз цудоўнай гордай дзяўчыны- птушкі. Лірычны цэнтр балета — адажыо II акта, Святлана Гарбунова і Уладзімір Далгіх (прынц) выконвалі нібы на агульным дыханні, спрабуючы зліць у адно пластычны малюнак і душэўны стан сваіх герояў. Меладычная, пранікнёная песня каралевы лебедзяў і кранала сэрца прынца, і... зачароўвала залу.

Праз нейкі час, нечакана, за тры дні да спектакля, яна даведалася, што танцуе ў "Лебядзіным возеры" абедзве партыі — і Адэту, і Адылію. Спакойна, з веданнем справы яна ўвайшла ў работу. Спакой, вядома, быў напускны. Часу рыхтавацца заставалася зусім мала, а партыя вымагала тэхнічнага і акцёрскага майстэрства. Трэба аддаць належнае партнёру Светы У. Далгіх і рэпетытару Т. Яршовай, якія не шкадавалі сіл і часу, працавалі нават у выхадны дзень.

І вось... Адгучалі апошнія такты "лебядзінай" тэмы II дзеі. Антракт. За гэты час галоўнай гераіні балета трэба не толькі змяніць белае "апярэнне" на чорнае, але і памяняцца ўнутрана, засяродзіцца на новым унутраным свеце вобраза. Зноў — музыка. На сцэну як віхор урываецца Адылія — Гарбунова, якая то загадкава вабіць, то абыякава адштурхоўвае. Толькі часам плаўныя павароты галавы, мяккія рухі рук нагадваюць нам пра яе журботнага і пяшчотнага двайніка. Быццам магічнай сілай прыцягвае чорны лебедзь прынца. І вось ён клянецца ў каханні,забыўшыся на Адэту. Каварная мэта дасягнута...

Шчыра кажучы, у трупе ніхто не чакаў ад Святланы Гарбуновай такога ўпэўненага, стабільнага выканання. Роля яўна ўдалася. З таго часу "Лебядзінае возера" трывала ўвайшло ў ейны рэпертуар, цяпер гэта яе любімы спектакль.

Як слушна пісала ў газеце "Культура" Т. Мушынская, запомнім імя Святланы Гарбуновай і будзем сачыць за яе мастацкім ростам. І спадзявацца, што творчыя вяршыні наперадзе.

**Дана БАКУНЧЫК**

**Калектыў рэдакцыі часопіса "Полымя" выказвае глыбокае спачуванне супрацоўніцы КУДРАВЕЦ Любові Захараўне з прычыны смерці брата Паўла.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Уладзіміру САЛАМАХУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці бацькі.**

**Калектыў выдавецтва "Мастацкая літаратура" выказвае глыбокае спачуванне рэдактару выдавецтва ХЛЕБАВЕЦ В. М. у сувязі з напаткаўшым яе горам — смерцю маці.**

ГАСЦЁЎНЯ

# "Я паважаю чужыя прынцыпы і маю свае"

*Кацярына Высоцкая, галоўны рэдактар газеты "Имя"*



**— Пачнём з простага. Ні як чытач, ні як журналістка я абсалютна нічога не ведаю пра галоўнага рэдактара "Имени", акрамя імя і прозвішча.**

— Мяне сапраўды мала ведаюць, і я не імкнуся афішыраваць сябе. Адрас увогуле хаваю. Пасля таго, што здарылася з жонкай Аляксандра Дракахруста, гэта не лішняя мера перасцярогі.

Мама ў мяне руская, масквічка, бацька беларус, прафесар Брэсцкага політэхнічнага інстытута. Вучылася я перш у Новасібірску, пасля ў Брэсце, затым на факультэце журналістыкі БДУ (закончыла ў 1985 годзе). Шчыра прызнаюся — нічому там не навучылася, размеркавання ўнікла, год займалася то тым, то гэтым, а пасля вырашыла, што Брэст для мяне як бы малы. У Мінску я год як аўтар працавала пры БЕЛТА, аддзяленні ТАСС. Трапіць туды было не проста — толькі па пратэкцыі ці рэкамендацыі партыйных органаў. Тым не менш, нягледзячы на адсутнасць вопыту і прапіскі, мяне ўзялі туды на сталую працу (за што дзякуй дырэктару Я. Аляксейчыку). І хоць гэтая ўстанова працавала пад строгім наглядам улад, там усё выверана, пісаць лішняга не дазвалялі, але ўсё ж я прайшла неблагую школу і ў 27 год стала начальнікам аддзела бізнесу і фінансаў.

**— Вы, Кацярына, ужо са школы падавалі надзеі?**

— Не, "залатым пяром" я не была, аднак журналісткай вырашыла стаць з сёмага класа. Бацька казаў, што я магла б пісаць дэтэктывы, бо валодаю логікай. Мама лічыла, што лепш пайсці ў дактары — гэта так узвышана, так высакародна, або ў юрысты — з практычнага пункту гледжання. А я тады любіла глядзець палітычныя дэтэктывы, дзе журналісты досыць часта былі не апошнімі асобамі. Мабыць, гэта і паўплывала...

**— У апазіцыйную газету вас прывёў выпадак ці перакананні?**

— Ну, апазіцыянерамі мы зусім не збіраліся быць. Газету штурхнулі на гэты шлях паводзіны ўладаў. Але давайце па парадку. Я пачала супрацоўнічаць з "Белорусской деловой газетой", якая толькі адкрылася. На дзяржаўнай службе мне было сумнавата. А паколькі сям'і я не мела і жыццё сканцэнтравалася на рабоце, то і работа мусіла быць цікавай, каб эмоцыі былі, а не толькі кар'ера. Плюс крыху большыя грошы.

**— Значыць, "Имя" саспела ў нетрах "Деловой". Хто выпрацоўваў канцэпцыю новай газеты?**

— Пяць чалавек, у тым ліку я і мой цяперашні намеснік Мікалай Халезін. На той час "Имя" ўжо выходзіла, але як рэкламнае выданне, і нашага выдаўца Пятра Марцава ў такой якасці не задавальняла. Такім чынам, трэба было ці закрываць яго, ці выпускаць новую — такую, якая яна зараз ёсць, — сучасную, "хітовую", папулярную газету. Прычым першы нумар падпісваў М. Халезін, але ён не журналіст па прафесіі, і рэдактарам стала я.

**— Дык дзіця нараджалася ў муках?**

— Вядома ж. Канцэпцыя стваралася не дзень і не тыдзень — паўгода. Адзін нумар такі выйшаў, другі такі... Потым, калі пачала вымалёўвацца стылістыка, пяць чалавек зачыніліся ў выдаўца ў кабінеце і з раніцы да вечара непасрэдна распрацоўвалі структуру газеты. Вы маглі заўважыць, што ў нас даволі жорсткая будова палос, рубрыкі строга вызначаны, так што ніякага "асарці" быць не можа.

**— Стыль кіраўніцтва ў вас аўтарытарны ці вы калегіяльна прымаеце рашэнні?**

— У нас цалкам таварыская, амаль сямейная атмасфера: мы ўсе аднаго ўзросту, усе на "ты". Часам мне даводзіцца падстройвацца пад чалавека, я баюся грубасці, асцерагаюся канфліктаў. Але я паважаю чужыя прынцыпы і маю свае. Не люблю, напрыклад, п'янства і не дазваляю разводзіць яго ў рэдакцыі. Шчыра кажучы, я адчуваю, што нейкая доля аўтарытарнасці не зашкодзіла б. Некаторыя пачынаюць карыстацца гэтай "сямейнасцю" і ўжо прыходзяць у рэдакцыю толькі кавы папіць ды навінамі падзяліцца. Невыпадкова ў нас зараз прыкметы творчага крызісу.

**— З чым звязаны перамены ў "Имени"? Вы прыкметна "пахудзелі"...**

— Так. У нас было 24 паласы, а стала 16. Мы панеслі вялікія страты з-за таго, што ў апошні час давялося ўдвая скінуць цану. Людзі ж у нас небагатыя, вымушаны лічыць кожную капейку. Вось і мы палічылі і вырашылі крыху "сціснуцца". Не стане асобных рубрык. Падалося лішнім рабіць разгорнутую праграму перадач. Народу гэта абсалютна непатрэбна, як, скажам, і высокая якасць фатаграфій (мы друкуем газету ў Літве).

**— Ці трэба ў дадзеным выпадку арыентавацца на "народ"? Можна было б і патрымаць планачку... Ці гэта дарагавата?**

— У тым і справа. Не проста дарагавата — вельмі дорага. Між тым сапраўдных цаніцеляў мала. Нашы чытачы (як, дарэчы, і вашы) — у асноўным адукаваныя, дасведчаныя людзі, гэта не Мар'я Іванаўна з Фрунзенскага харчгандлю.

**— Наколькі я зразумела, вы хочаце пашырыць сферу ўплыву?**

— Так. Наша выданне — камерцыйнае. Мы не на дзяржаўныя і не на партыйныя сродкі жывём, мы жывём на грошы ад газеты. Самае дзіўнае, чаму гэта раптам свецкая газета зрабілася апазіцыйнай, прычым апазіцыйнай не проста да ўладаў, а да прэзідэнта. Лічу, што гэта заслуга яго стылю кіраўніцтва. Нас то зачынялі, то не давалі тыраж распаўсюджваць... Мы б у любым выпадку крытыкавалі яго, але наша крытыка не была б такой вострай. У рэшце рэшт людзям надакучае чытаць пра аднаго і таго ж чалавека. Хопіць, што яны пастаянна прыгадваюць пра яго, адкрываючы кашалёк, а тут яшчэ ў кожным нумары, на кожнай паласе... Адпачыць хочацца. Паўтараю, мы не партыйная газета, мы ўсё-ткі "чціва".

**— Для "чціва" ў вас замнога аналітычных матэрыялаў.**

— Яны застануцца, але пра палітыку мы будзем пісаць больш простай мовай, без "выкрутасаў". Шырэйшы стане спектр тэм.

**— Тут будзе дарэчы пытанне адной вашай чытачкі: "Як у іх атрымліваецца, што ўсе матэрыялы — як быццам адзін аўтар піша?"**

— Гэта ўплыў рэдакцыйнай атмасферы. Збіраемся, прагаворваем тэмы, а пасля ўжо пішам. І пішам так, як гаворым. Існуе, між іншым, міф, што мы нікога з пішучай брацііі блізка не падпускаем. Да нас ніхто не ідзе прасіцца на працу, хоць падчас і патрэбны журналісты, патрэбна "свежая кроў". Увогуле ў любым выданні павінна быць цякучка кадраў, хоць гэта і дзіўна гучыць. Новыя людзі — новыя ідэі, новыя падыходы, творчы пошук.

**— У некаторых айчынных выданнях мо 40 год не пераглядалася канцэпцыя. Які ўжо тут пошук!..**

— Такое бывае толькі за дзяржаўны кошт.

**— Як і іншыя газеты, "Имя" друкуе штомесячныя рэйтынгі 50-ці беларускіх палітыкаў. Атрымліваецца, што колькі буйных чыноўнікаў, столькі і палітыкаў?**

— Я з вамі згодна. У Беларусі няма і дзесятка сапраўдных палітыкаў, няма палітычнай эліты. Апытанні праводзіць "Скарына", мясцовае прадстаўніцтва маскоўскай сацыялагічнай службы. Мы толькі купляем у іх матэрыялы і змяшчаем на сваіх старонках. У лістападзе, падчас "рэвалюцыі" напярэдадні рэферэндуму, мы свядома "ўзбуйнялі" некаторых палітыкаў, хаця іх шанцы на перамогу былі мізэрныя. Потым давялося перабудоўвацца (для асобных нашых супрацоўнікаў гэта быў нялёгкі працэс). Зараз мы амаль не ўдзяляем ім увагі.

**— ...у такім выпадку самы час удзяліць увагу культурнаму, як кажуць, фронту. А вашу газету як ні адкрыеш — спрэс знаёмыя імёны, у асноўным расійскія, спрэс даўно адкрытыя зоркі...**

— Дзеяч культуры, як і палітык, перш павінен праявіць сябе, а пасля ўжо мы пра яго напішам. Не наша задача — адкрываць, мы хапаемся за імя, якое на вуснах.

**— За імёны не толькі хапаюцца, іх яшчэ часам і ствараюць. Асабліва калі гэта датычыцца творчай сферы, досыць закрытай.**

— Я разумею. Але самі мы, напрыклад, не можам вырасціць спевака. Мы яго можам толькі заўважыць.

**— Прыклад не вельмі ўдалы: у вашай газеце ўсё культурнае жыццё рэспублікі і так амаль зводзіцца да рок-музыкі і эстрады.**

— Мы мусім пісаць пра тое, што цікавіць чытачоў, а не чым цікавімся асабіста мы, супрацоўнікі газеты. Гэта кан'юнктура, гэта бізнес.

**— Атрымліваецца, што вы як бы ідзяце па лязе нажа: і разумненькімі трэба быць, і чытачам падабацца.**

— Вы па-свойму сфармулявалі канцэпцыю "Имени". Сапраўды, наша задача — трымаць баланс паміж аналітычнай і "папсовай" інфармацыяй. Лічу, што мы пакуль вытрымліваем гэтым баланс.

**— Аўтары ў вас выключна мясцовыя ці ёсць, дапусцім, масквічы?**

— У нас ёсць уласныя карэспандэнты. Калі дакладней — мы выкарыстоўваем карэспандэнтаў БДГ (паколькі мы з ёй холдынг) — у Маскве, Польшчы, краінах Балтыі, Швецыі. Здараецца, заказваем матэрыялы эмігрантам. Не лянуемся званіць, калі ёсць патрэба. Напрыклад, гутарку з праваабаронцам С. Кавалёвым мы зрабілі па тэлефоне. Так што ездзіць далёка не даводзіцца. Звычайны прыём, якім не карыстаюцца іншыя выданні.

**— Чым вы, Кацярына, цікавіцеся, акрамя працы?**

— Люблю хатніх жывёл. І вось што заўважыла: калі памёр мой сабака, то мо з месяц у газеце праходзілі змрочныя загалоўкі. Штосьці спрацавала на ўзроўні падсвядомасці.

**— Што для вас з'яўляецца апорай у жыцці?**

— З гадамі я пачала па-іншаму ставіцца да бацькоў. Неяк шчымліва, ці што... Само па сабе прыйшло ўсведамленне, што па вялікім рахунку я магу абаперціся не на мужа ці яшчэ на каго, а толькі на іх.

**— Вас выхоўвалі ў дзяцінстве альбо вы раслі, як усе мы, — як трава, самі сабе прадастаўленыя?**

— Мне шмат далі бацькі. Яны ў мяне адукаваныя. Маці, скажам, рэгулярна падсоўвала мне прачытаць тую ці іншую кнігу, той ці іншы твор у часопісе. (Яна шмат што выпісвала, у тым ліку "Новый мир".) Каб я была "на хвалі", каб адчувала час, каб мне было пра што размаўляць з людзьмі. Яны вучылі мяне кантактавацца. Ды і журналістыка па сутнасці вучыць таму ж.

**— Што вас выводзіць з сябе?**

— Безадказнасць, п'янства, расхлябанасць. І здрада, вядома.

**— Чаго, нарэшце, вам мала?**

— Калі жыццё — работа, то мала ўсяго астатняга. Сваёй кватэры няма, дзяцей няма... Пасля рэферэндуму, як і ў многіх, з'явілася думка, што адсюль трэба з'язджаць. Як у тым анекдоце: ці птушкай, ці пудзілам, а ехаць трэба... Падумвала наконт Масквы, дзе ў мяне бабуля жыве. Аднак там, зноў жа, свае праблемы. Там столькі журналістаў і столькі выданняў, што яны ўжо не ведаюць, адкуль браць штосьці новенькае. Адзіная сфера, дзе яшчэ можна "капаць", гэта бізнес. Небяспечная, скажу вам, справа...

**— Няўжо так цяжка стала тут?**

— Надакучыла жыць у стане бесперапыннай барацьбы. Мы ўвесь час з некім змагаемся, з некім судзімся... Разумееце, мы не палітыкі. Мы толькі журналісты, якія пішуць пра палітыку, а значыць — маем права на нейкую палёгку, на перадышку хаця б. Гэта палітыку ў выпадку чаго лепш сесці ў турму, чым шукаць прытулак за мяжой. Бо турма для палітыка — этап кар'еры. Каму-каму, а яму пакідаць свой народ у бядзе нельга, і я перакананa, што ў нас Славамір Адамовіч сядзеў за Зянона Пазняка. Аднак мы з Мікалаем Халезіным добранька падумалі — і застаёмся, а гэта азначае, што барацьба працягваецца. У газеты "Имя" ёсць свая пазіцыя, і мы гэтага не хаваем.

**— Што ж, застаецца пажадаць усім нам калі не палёгкі, дык мужнасці і душэўнай раўнавагі.**

**Гутарыла Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА — ЛіМ — газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985
**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2682-667





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4678
Нумар падпісаны 6.3.1997 г.
Заказ 1304/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12